# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг. Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 1–2 (282–283) Праваслауныя Каляды 7 студзеня 1956 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Божай Міласьцю

*Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне*

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА І ЎСІХ БОГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ**

## Саборнае Каляднае Пасланьне

**«І СЛОВА целам сталася, і пасялілася між намі» (10. 1, 14).**

### Улюбленыя Дзеці нашыя!

Такімі натхнёнымі й цудоўнымі словамі зьвястуе нам сьвяты Апостал Іоан вялікую радасьць: ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! Хрыстос, прадвечнае «Слова целам сталася, і пасялілася між намі, і бачылі мы славу Яго, як Адзінароднага ад Айца, поўнае ласкі й праўды». А сталася гэта ня прыпадкова. Аб гэтым абвесьціў Бог Айцец ужо зграшыўшым Адаму й Эве ў Раю: «Насеньне Жанчыны скрышыць галаву шатана» (І Майс. 3, 15).

Госпадзь Бог стварыў Адама й Эву для вечнага й шчасьлівага жыцьця ў Раю. Але зьмей-шатан спакусіў іх, яны цяжка зграшылі й гэтым страцілі Рай і жыцьцё вечнае. Аднак, Госпадзь Міласэрны, дзеля бясконцае любові Свае, зьмілаваўся над імі і абяцаў паслаць ім Мэсію-Збаўцу, Каторы Сваім послухам аж да сьмерці на Крыжы паверне людзям страчанае жыцьцё вечнае ў Раю.

Цяжкое было жыцьцё людзей пасьля страты Раю. Аднак, надзея на Мэсію-Збаўцу іх ад роспачы ратавала, узмацняла, пацяшала. А калі яна слабела, а часам і зусім зьнікала, Госпадзь Бог прыпамінаў ім аб ёй праз Сваіх Прарокаў, якія, натхнёныя Духам Сьвятым, гаварылі людзям: Прыйдзе Мэсія, народзіцца ад Прачыстае Дзевы ў Бэтлееме, злучыць ізноў людзей з Богам!

І вось, калі споўнілася поўня часу, у ціхую Сьвятую Ноч стаўся цуд: зазьзялася Зорка над Бэтлеемам! Зорка Ласкі, Міласэрдзя й Любові Божае. У вялікім сьвятле зьявіўся Ангел на небе й абвесьціў Бэтлеемскім пастушком аб вялікай радасьці ўсім людзям: «Цяпер нарадзіўся вам у месьце Давідавым Збаўца, Каторы ёсьць Хрыстос Госпадзь» (Лк. 2, 11).

Хрыстос, Збаўца наш, НАРАДЗІЎСЯ! Нарадзіўся ў ясьлях у стайні, бо «ня было Яму месца ў гасподзе» (Лк. 2, 7). Дзіва дзіўнае: Уладар Неба й зямлі, Тварэц усяго сьвету, нарадзіўся як найбяднейшы чалавек! Але гэта толькі для нас дзіва, бо Народжаны Хрыстос, паводля Провіду Божага, меў узяць на Сябе ўсе беды, немачы й грахі нашыя. Таму Ён, як Чалавек, ужо ад Нараджэньня мусіў быць сярод гэтых бедаў, немачаў, выгнаньня, цярпеньняў, уключна з пакутамі на Крыжы. Ісус Хрыстос узяў беды нашыя на Сябе, каб нас зрабіць шчасьлівымі. Ён зышоў зь Неба, прыняў нашае цела, каб ачысьціць, асьвяціць нас, зрабіць нас ізноў дзяцьмі Божымі. Ён панізіў Сябе, каб так падняць нас на ўзровень ангелаў, на вышыні Нябесныя! Ён стаў Чалавекам, каб перамагчы ўсе слабасьці нашыя й паказаць нам, што й мы можам карыстацца сілаю Яго, калі толькі пойдзем за Ім, паводля слова Яго: «Калі будзеце мець Веру, дык зробіце тое, што Я раблю, і нішто ня будзе немагчымае для вас» (Мц. 17, 20). Урэшце, Сваім Нараджэньнем у стайні, Збаўца наш асьвяціў усю прыроду, усякі твор.



**Сабор Спаска-Еўфрасінеўскага манастыра ў Полацку, пабудаваны між 1128—1156 гг.**

Таму ў ціхую Сьвятую Ноч Нараджэньня Дзіцяткі ўся прырода заціхае, зачараваная зьяўленьнем Тварца свайго ў людзкім целе, усякі твор пяе хвалу Яму. Тым болей людзі, зачараваныя сьвятлом Зоркі Бэтлеемскае, абнаўляюцца, прасьвятляюцца, выбачаюць сабе крыўды розныя, бо-ж гэтае сьвятло Любові Божае ня ведае ніякіх перашкодаў, ніякіх межаў, абыймае сабою ўвесь сьвет: усіх людзей, усякі твор. Таму таксама нашыя пабожныя продкі з усёабыймаючаю любоўю ў сэрцах сваіх несьлі сена із стала ў стайню й давалі яго жывёле, бо ў гэтую часіну ўсё было Божае!

Так дабрадзейныя праменьні Зоркі Бэтлеемскае, як сьвятло Ласкі й Любові Божае, натхняюць сабою ўвесь сьвет, усюды нясуць радасную вестку аб Нараджэньні Богачалавека на зямлі, весьцяць Праўду, Супакой-Мір усім людзям добрае волі. І як даўней людзі добрае волі цешыліся надзеяй на прыход Збаўцы, так і цяпер з Нараждэньнем Яго цешацца надзеяй, што скора запануе ўсюды на сьвеце любоў, братэрства й мір, як Ён і сказаў: «Прыдзеце да Мяне ўсе працуючыя й абцяжаныя, і Я супакою вас» (Мц. 11, 28). Таму ўсе людзі добрае волі ў ціхую Сьвятую Ноч вітаюць Народжанае Дзіцятка, як сьвятло й мір сьвету, фіміямам свае любові й надзеі, выяўляючы гэта сьвятлом запаленых сьвечак. І асабліва ў гэтую Сьвятую Ноч душы іх цешацца, бо адчуваюць прысутнасьць Тварца сьвету й міру-супакою сярод іх дый цьвёрда вераць, што скора прыйдзе час, і «Бог міру скрышыць шатану пад нагамі нашымі» (Рым. 16, 20).

Але радасьць нашая заўсёды большая, калі мы дзелімся ёю з нашымі блізкімі. Таму ў гэты Сьвяты Вечар кажны сьпяшаецца дамоў, да свае сямейкі, да стала з пахучым сенам, каб перажыць радасьць ангелаў і Маці Божае перад ясьлямі Дзіцяткі. Нажаль, многія з нас будуць мець пустыя месцы пры сваім стале, бо там ня будзе бацькі, маткі, або сына, дачкі. І не адна сьляза скоціцца з абліччаў нашых, але няхай яна злучаецца з гарачаю Вераю й Любоўю да Народжанага Хрыста, Бога нашага, Каторы пацешыць вас, пашле Ласку Сваю вам і тым, каго няма з вамі. Асабліва-ж шчыра й горача памолімся ў гэты Сьвяты Вечар за тых нашых братоў і сёстраў, што церпяць і пакутуюць дома ды на катаргах і высылках сучаснага Гэрада. Збаўца наш выслухае малітвы нашыя і паможа нам неўзабаве славіць Яго на нашай адроджанай вольнай і слаўнай Бацькаўшчыне — Беларусі.

З гэтаю цьвёрдаю вераю й надзеяю на мір Божы ў сьвеце, з палымянай любоўю да Новanaроджанага Хрыста, Бога нашага, вітаем вас, усячэсныя Айцы й улюбленыя Браты й Сёстры зь вялікім і радасным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА і з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Няхай сьвятло Зоркі Бэтлеемскае ўзмоцніць і прасьвеціць вас ды злучыць вас у вадну Богу мілую сям'ю, і радасьць нашая будзе поўная, бо Ягоная, Хрыстовая (10. 15, 11).

Пасылаем вам нашае Архіпастырскае Багаславеньне. Стала ўзмацняйце Веру вашую ў Хрыста, Бога нашага, пазнавайце Праўду Яго, і «яна зробіць вас вольнымі» (10. 8, 32) ды шчасьлівымі й раданымі тут на зямлі й там на Небе.

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Шчадроты Сьвятога Духа будуць з усімі вамі. Амін!

**† ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЯРГЕЙ**

Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Царквы

**† ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ**

Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦарквы

Дадзена Року Божага 1955 месяца сьнежаня

Аўстралія — Амэрыка.

---

**Усіх праваслаўных Беларусаў віншуем зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста!**

# Адкрываючы «Нашаніўскі» год

У 1956 годзе мінае поўстагодзьдзя з часу выхаду першага нумару газэты «Наша Ніва», якой давялося стацца эпохатворчай у гісторыі нашага народу. Тыднёвік «Наша Ніва» выходзіў у Вільні ад 1906 (лістапад) да 1915 (жнівень) году і згуляў у гісторыі беларускага нацыянальнага адраджэньня першарадную ролю. Таму «нашаніўскім» сяньня акрэсьліваецца ня толькі пэрыяд у гісторыі беларускае літаратуры, але пэрыяд усяго духовага жыцьця беларускага народу. Важнасьць гэтага пэрыяду падчыркваецца й павялічваецца яшчэ больш нядаўна распачатым бальшавіцка-русыфікатарскім наступам супраць аб'ектыўнае ацэны гістарычнае ролі «Нашае Нівы».

Савецкая «Литературная Энциклопедия» (т. I. гл. «Белорусская литература», у свой час (1929 г.) так пісала пра «Нашу Ніву»: «Асабліва вялікую ролю ў разьвіцьці беларускае грамадзкае думкі згуляла тыднёвая газэта «Наша Ніва». Будучы ворганам нацыянал-дэмакратычнага кірунку ды будучы зьвязанай галоўным чынам зь сялянскімі масамі, „Наша Ніва” мела вялікае літаратурнае значэньне: вакол газэты гуртавалася і на ейнай ідэялёгіі ўзгадоўвалася цэлае пакаленьне паэтаў і пісьменьнікаў, творства якіх давала асноўны тон эпосе, чаму дадзены пэрыяд у разьвіцьці беларускае літаратуры можна слушна назваць „нашаніўскім” пэрыядам». Тая-ж энцыкляпэдыя сьцьвярджае, што «Наша Ніва» стаяла на «пазыцыі адзінага нацыянальнага фронту і барацьбы з самадзяржаўем».

Гэтае правільнае акрэсьленьне ролі «Нашае Нівы» ды ейнае сувязі з шырокімі сялянскімі масамі падмацоўваюць і лікавыя дадзеныя.

Прыкладам, за першыя тры гады выхаду газэты ў ёй было зьмешчана 960 арыгінальных карэспандэнцыяў з 489 вёсак і мястэчак. За 4-ы год выхаду — 660 карэспандэнцыяў з 321 розных месцаў. Пры гэтым важна адцеміць, што карэспандэнцыі ў газэту не аплачваліся. Наагул ніхто не аплачваўся, акрамя 1-2 тэхнічных працаўнікоў. Рэдагаваньне й выдаваньне «Нашае Нівы» — гэта прыклад ахвярнасьці тагачасных беларускіх дзеячоў.

Гэткі менш-больш, у сваёй аснове гістарычна праўдзівы, пагляд на «Нашу Ніву» замацаваўся быў і ў беларускай савецкай гісторыі. Аднак ад нядаўнага часу, праз колькі год пасьля заканчэньня Другое сусьветнае вайны, бальшавіцкая гісторыя пад ціскам русыфікацыйнае праграмы ўзяла зусім супрацьлежны курс у ацэне нашаніўскага пэрыяду. Тыя здабычы беларускага нацыянальнага адраджэньня, якія заўдзячваюцца «Нашай Ніве» ды наагул нашаму пачуцьцю нацыянальнае апрычонасьці, прапаганда прыпісвае цяпер так званай «перадавой расейскай літаратуры».

**Заканчэньне на 2-ой бачыне**

# Злачынства ў даліне ракі Дравы

**АД РЭДАКЦЫІ:** Гэты артыкул перадрукоўваем з дазволу аўтара з польскага лёнданскага тыднёвіка «Вядомосьці» (Но. 43 за 23 кастрычніка 1955 г.) з гледзішча на важнасьць праблемы, у ім парушанай, як і з гледзішча на бліскучыя журналістычныя якасьці самога артыкулу. Ягоны аўтар Язэп Мацкевіч (Józef Mackiewicz) зьяўляецца адным з найвыдатнейшых польскіх журналістых і пісьменьнікаў, якому нядаўна была прысуджаная другая пісьменьніцкая ўзнагарода чытачоў успомненых «Вядомосьці» (першую ўзнагароду атрымаў ягоны брат Станіслаў Мацкевіч). З пасярод ягоных літаратурных твораў на асаблівую заслугоўвае ўвагу выдадзеная ў 1955 годзе ў Лёндане повесьць «Дарога да нікуды» («Droga donikąd»), у якой у вельмі яркіх і рэалістычных хварбах прадставіў увесь нявымоўны кашмар бальшавіцкай акупацыі ў Вільні й Віленшчыне ў 1940 і 1941 годзе. Чытаючы гэтую повесьць, перад чытачом аднаўляюцца ня так даўно перажытыя ім жудасныя часы на бацькаўшчыне, калі, здавалася, ня было відаць аніякага выхаду із запраўды бязвыхаднага палажэньня, што найлепей аддае ўжо сам загаловак повесьці. Язэп Мацкевіч, сам віленчук і зьвязаны сваімі зацікаўленьнямі зь Віленшчынай і ейнай будучыняй, як і будучыняй земляў, фактычнай сталіцай якіх зьяўляецца Вільня, ня менш цікавіцца й беларускай нацыянальна-вызвольнай праблемай. Ня ў прыклад свайму брату Станіславу Мацкевічу, які адносіцца нэгатыўна да беларускай праблемы, дачыненьні Язэпа Мацкевіча да беларускай нацыянальна-вызвольнай справы зьяўляюцца пазытыўнымі, прыхільнымі й спачувальнымі, што асабліва ярка выразілася ў ягоным артыкуле «Аб аднэй апошняй пробе або аб застрэленым Буйніцкім», надрукаваным у парыскім польскім месячніку «Культура» (Но. 11, 1954). У гэтым цікавым і бліскуча напісаным артыкуле ён стаіць на канцэпцыі аднаўленьня Вялікага Літоўскага Княства, у якім усе народы, у яго ўваходзячыя, былі-б узапраўды вольнымі й між сабою роўнымі. Ён, як і сам аб гэтым выразна гаворыць, выходзіць у гэтай канцэпцыі ня з польскіх дзяржаўных інтарэсаў, але зь інтарэсаў вялікалітоўскіх, г. зн. зь інтарэсаў усіх народаў, што тварылі Вялікае Літоўскае Княства.

*

Калі ў 1673 паявіўся ў Запароскай Січы Мацюшка Вараб'ёў, прыгонны селянін Дзімітра Вісьнявецкага, і абвесьціў сябе быццам царэвічам Сымонам, а Масква запатрабавала выданьня самазванца, Казакі адказалі горда, што «ад вечных вякоў» Січ ня выдавала людзей. Не абазначае гэта, каб народы, падобна як і паасобныя людзі, паступалі заўсёды паводля гордых асьветчаньняў, якія аб самых сабе выдаюць; скарэй за ўсё ломяць іх так часта, як вымагае гэтага жыцьцё. (У выніку й нешчасьлівы Вараб'ёў год пазьней быў пачацьвяртаваны й закапаны ў Маскве на месцы, званым Балота, побач із Сьценькам Разінам). Затое гэта сьветчыць, ад якіх гэта ўжо «вечных вякоў» і ў як далёкім радыюсе ад цэнтру хрысьціянскай культуры была ўважаная традыцыя нявыдаваньня людзей у рукі ката за рэч, зь якой трэба было быць гордым.

Ад гэнага часу было выказана на сьвеце дадаткова тысячы прыгожых асьветчаньняў, было напісана сотні тысячаў узвышаных слоў, былі выкананыя мільёны ўрачыстых жэстаў у імя культуры й чалавецтва. Але калі 1 чэрвеня 1945 году ўзыйшло сонца над далінай ракі Дравы, што плыве вузкім карытам паўдзённых Альп, асьвяціла яно наступны абраз: многатысячны натоўп на каленьнях засланяецца крыжам; па сенажацях і палёх разьлятаюцца стады каней і вярблюдоў; жанчыны зь дзецьмі ўзьдзіраюцца на скалістыя ўзбоччы, уцякаючы ў сьмяротным страху перад кулямі й палкамі хрысьціянскіх жаўнераў, якія заганялі ўсё ў рукі ката ... — Што гэта было?

А ну, калі-б я хацеў быць зласьлівы, сказаў-бы іранічна: выдаваньне «Азіятаў» у рукі эўрапэйскага марксізму.

З ацелелых, перабываючы цяпер у Амэрыцы былы генэрал Вячэслаў Наўменка, ад дзесяці год зьбірае дадзеныя, лісты, прызнаньні сьветкаў, расьцярушаныя публікацыі і г. д. Сабраў адным словам тое, што называецца гістарычным матарыялам. Пасэграгаваў, крытычна сканфрантаваў, спраўдзіў аўтэнтычнасьць рэляцыяў і адкінуў, што ўваходзіла ў галіну легэнды.

Уся справа ня цікавіць мяне з палітычнага гледзішча. Я пачаў яе дасьледваць скарэй зь цікавасьці рэчаў найглыбей людзкіх, абнятых неадпаведнай назвай: «нялюдзкіх». У свой час я пісаў аб Панарах пад Вільняй, дзе былі мардаваныя Жыды. Пісаў я аб Катыні, дзе былі мардаваныя польскія ахвіцэры. Магчыма заважыла тут трохі і тая акалічнасьць, што і ў Панарах і ў Катыні быў я асабіста. Вось-жа я быў таксама ў даліне ракі Дравы. Па праўдзе на некалькі месяцаў перад апісванымі выпадкамі, але знаю мясцовасьць, а мясцовасьць вялікай славы ці вялікага злачынства мае ў сабе заўсёды штосьці прыцягваючае. Мясцовасьць! У дадзеным прыпадку склубленыя хвалі ракі, па якіх пазьней плылі трупы; лугі па якіх бегалі пазьней безгаспадарскія коні; ідэяльна абыякавыя верхавіны гор, як заўсёды занятыя вылучна разьмінаньнем з хмарамі; цэлы прастор драмы ад Вільлях цераз Шпітталь, Штайнфэльд, Обэрдраўбург і Ліенц, зь іх войстрымі вежамі каталіцкіх касьцёлікаў, якія званілі аб зьмілаваньні над праваслаўнымі людзьмі датуль, пакуль ім брытанскія ўлады гэтага званеньня не забаранілі.

І яшчэ адно: я бачыў гэных людзей летам 1944 году, калі перапраўляліся цераз Піліцу. Спаткаў я іх у Чэнстахове: баранкавыя шапкі з чырвоным дном; чорныя ад ветру й пылу, маўклівыя, панурыя твары; худыя каровы прычэпленыя да вазоў. Ніякай эскорты. Гэта няпраўда, каб іх нехта гнаў. Самі цягнуліся на захад. Несканчоныя абозы. На фоне эўрапэйскіх камяніц рабілі ўзапраўды эгзатычнае ўражаньне: «Азія», што ўцякае перад бальшавікамі.

### АДВАРОТ НА АЛЬПЫ

26 красавіка 1945 году скапітулявалі нямецкія войскі ў Італіі. 27-га быў схоплены Муссоліні. У гэным часе на тэрыторыі фашыстаўскай рэспублікі паўночнай Італіі знаходзілася група атамана Даманава ці, як сама сябе называла, «Казацкі Стан», распалажаная ў раёне места Тольмэццо, разам узброеных звыш 7.000 чалавек. Згрупованых каля войска цывільных людзей, значыцца, жонак, дзяцей, старых і інвалідаў, было 8.435. Лікі гэтыя паходзяць з канца 1944 году і ня ёсьць поўнасьцю дакладныя. Паза гэтым на працягу зімы плылі ў Італію далейшыя хвалі ўцекачоў. Прыбылі таксама пазьней казацкія палкі 8-ы і 10-ы, колькаснасьць якіх ня ёсьць бліжэй ведамая. Апрача гэтага, блізка Гэмоны стацыянаваў 3-ці полк запасны (каля 2.500 людзей), але ён у вадрозьненьне ад галоўных сілаў Даманава скапітуляваў перад італьянскімі партызанамі, быў вывезены на поўдзень і выдадзены бальшавіком пры іншых акалічнасьцях.

Адменную таксама групу тварыў XV казацкі корпус у складзе трох дывізіяў, што апэравалі на Балканах супраць войскаў Ціты. У гэным пэрыядзе адступаў ужо на Грац і там быў выдадзены.

Пры групе атамана Даманава знаходзіўся шырака ведамы з дамашняй вайны генэрал Красноў, выдатны эміграцыйны пісьменьнік, правадыр казацкага руху, тады 76-годні стары, які фактычна ня выконваў беспасярэдняй улады. Уночы з 27 на 28 красавіка ў гасподу Даманава зьявілася трох ахвіцэраў з чырвонай італьянскай партызанкі, жадаючы злажыць аружжа. Даманаў асьветчыў, што капітуляваць будзе вылучна перад Ангельцамі, злажыць аружжа адмовіўся, затое абяцаў Італьянцам, што на працягу трох дзён адступіць на поўнач за Альпы. Гэткім спосабам распачаўся першы акт драмы.

Вырушылі адзінай свабоднай яшчэ дарогай у горы, на Палюццо. Стуль на цясьніну Плёкэн-Пас вышынёй 1.300 м, граніцу Аўстрыі. На доле, калі адыходзілі, цьвілы ўжо міндалы, пачыналася італьянскае лета. Цяпер замест пініяў зьявіліся па абодвых бакох дарогі сосны, замятусіліся белай карой бярозы, пачаліся елкі. Пачаўся дождж, які хутка перайшоў у вільготны, ліпкі сьнег. Зачаліся таксама першыя азнакі распружаньня. Наперадзе машыраваў штаб, варстаты і галоўныя абозы; за гэтым станіцы донскія, кубанскія, напасьледак церскія. Даманаў астаўся яшчэ ў Тольмэццо, чакаючы на аддзелы, што сьцягваліся з раёну Удіно.

(Працяг на 3-яй бачыне)

# Тайніцы Сьляпянскага лесу

**(З радыёвай хвалі «Вызваленьне»)**

За Менскам, на шостай вярсьце ад Парку Культуры й Адпачынку, у лесе Малой Сьляпянкі, пахаваны вялікія тайніцы жыцьця. Сьляды страшэннага злачынства пазарасталі даўно мохам і травою, але памяць не спляmілася часам.

Я хачу расказаць пра тое, што бачыў на ўласныя вочы, і тое, што гаварылі мне жывыя сьветкі ды апавядальнікі чутага ад іншых. Ня ведаю, дзе цяпер гэтыя людзі. Бальшыня зь іх, напэўна, загінула ў канцэнтрацыйных лягерах Сібіру, а косьці іншых, магчыма, буцьвеюць у тым самым Сьляпянскім лесе... Пра гэтую праўду не напіша ніколі ні маскоўская «Праўда» ні менская «Зьвязда».

1932 год. Студэнты менскага Пэдагагічнага Тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага, а сярод іх і я, адбывалі на Дасьледчай Станцыі ў Малой Сьляпянцы сваю месячную сельскагаспадарчую практыку. Дырэктар станцыі папярэдзіў: **«За дзьвесьце мэтраў ад баракаў пачынаецца ваенная зона, хадзіць туды забараняецца!»**

Аднаго дня наказалі мне, што бацькоў выгналі з калгасу, а старэйшага брата пасадзілі ў турму. Хацелася йсьці на край сьвету. Надвечар я паклікаў блізкага сябру Сяргея Русаковіча, маладога беларускага пісьменьніка, і мы, нікому нічога ня кажучы, падаліся ў лес. «Стары Барыс, што корміць канадыйскіх карпаў у сажалках, кажнага досьвітку бачыць «Чорнага ворана», а ў тэй у лесе камяніцы, кажа ён — ня дом адпачынку, а нейкая катавальня...» — гаворыць Сяргей. «А Рачыцкая, дачка камісара, гаворыць, што там поўна хворых, — заўважыў я. — Розныя ходзяць чуткі...».

Каля забалаці, улева ад чыгункі Менск—Масква, мы прачыталі напісанае чырвонымі літарамі: «КОНСКІ МОГІЛЬНІК. НЕБЯСЬПЕЧНА!» Мноства засыпаных і незасыпаных ямаў. Кавалкі гліняных трубаў, кучы хваёвых слупоў і скруткі калючага дроту. «Гэта, — гаворыць сябра, — для адводу вачэй... Барыс ведае ўсё чыста, папытайся толькі яго...»

Лес гусьцеў і рабіўся цямнейшым перад захадам сонца. У подыху вільгаці пахла трупной гнілотай. І вельмі блізка... Пачалі шукаць. «Бачыш?» — з жахам зьвярнуўся я да Сяргея. Я дагэтуль не даваў веры, што можа ледзянець цела і заміраць сэрца. На плашчыні нейкіх трох гэктараў, паміж радамі пасаджаных у 1925 годзе хвоек, жаўцелі, размытыя пазаўчарашнім дажджом, маленькія курганкі і велікаватыя насыпы. Было іх, нешта, каля шэсьцьдзесяці на першым пляне, а далей — яшчэ... і яшчэ... Шмат якія былі заваленыя ламаччом.

Весткі з дому і пах магільнай чалавечай гнілі адурманілі галаву. Я адарваў вокладку Марксавага «Капіталу» і напісаў: **«Пад якімі-ж курганамі буцьвянеюць косьці маіх братоў: Якуба, Уладзімера, Андрэя і Вінцэся?!»** Вокладку насадзіў на сук галіны, што абдымалася з аброслым травою курганом. «Ты звар'яцеў, ці што?!» — з трывогаю крыкнуў Сяргей Русаковіч. Мне таксама хацелася крычаць і клікаць людзей шукаць родных і блізкіх. Пакідаючы мейсца вялікага бойнішча, гэткія словы вырваліся з маіх грудзей: **«Пачакайце-ж, бальшавіцкія далакопы»!...»**

На скрыжаваньні лясных сьцежак убачылі мы некалькіх мужчынаў з рыдлёўкамі ў руках, абкружаных чырвонагаловымі энкавэдыстамі з сабакамі. Нельга было ўцякаць: перад намі стаяў ужо чалавек з аўтаматам. У вобразе гэтага двуногага зьвера я пазнаў рабатварага Васіля, Гіцля Бессардэчнага, як празвалі яго людзі маіх родных Дудзічаў. «Нешта вельмі шмат коней здыхае ў вас...» — сказаў я ня вітаючыся. «Глядзі, разумнік, каб замест каня твая галава ня трапіла ў яму... Ідзі, каб і духу твайго ня было тут... Пагаворым пазьней» — аўтарытэтна выказаўся Гіцаль Бессардэчны.

Каля Дасьледчай Станцыі сустрэлі нас сябры: Сяргей Астрэйка, аўтар ненадрукованай выдатнай «Бэнгаліі», Сяргей Гайка, Касянкоў, брат Міхася Зарэцкага і студэнт Адам, пляменьнік Адама Бабарэкі. Апошні, моцна ўсхваляваны, паведаміў: «Дзядзька Барыс і студэнт Ахрэмчык — арыштаваныя. Дырэктар пытаўся пра вас...»

Ноч была няпрыемнай і вельмі трывожнай. Усе драбніцы, як жывыя, стаяць перад маімі вачыма. Мне здаецца, што й цяпер яшчэ чую дзікі крык ратунку, які даносіўся тае начы да нашага слыху спад таемнічае жоўтае камяніцы Сьляпянскага лесу.

28-га лютага 1933 году вокладка Марксавага «Капіталу» зь імёнамі маіх братоў ляжала на стале сьледчага ў мурох менскага НКВД. Сухатварая Навіцкая, што часта наведвала рэдакцыю газэты «Савецкая Беларусь», а пазьней і Малую Сьляпянку, гаварыла магільным голасам: «Вось мы і спаткаліся... Спадзяюся, што спаткаешся і з братамі...»

Увесну 1935-га году ў чырвоных мурох Марынскае турмы, у Сібіры, пазнаёміўся зь Вячаславам Ануфрыевам, былым малодшым лейтэнантам менскага НКВД. Аднавокі сухотнік часта паўтараў мне: «Моцна пакараў мяне Бог за сьляпянскія душы... Ляжыць там ня менш дзесяці тысячаў.»

**Ул. Д.**

# Адкрываючы „Нашаніўскі“ год

(Працяг зь 1 бачыны)

Аб «Нашай Ніве» ў савецкіх падручніках (асабліва) ды навуковых працах сыстэматычна пачынае заціраецца сьлед. Тое, што гаворыцца, дае вобраз у пераkрыўленым хвальшывым сьвятле. Так, прыкладам, Вялікая Савецкая Энцыклядыя ў некалькіх радкох, акрамя «лібэральна-буржуазнага кірунку» ды мімаходнага ўспаміну пра Купалу й Коласа, нічога больш не падае. У выдадзеным у 1954 годзе першым томе «Гісторыі БССР» «Нашай Ніве» прысьвечана ўсяго пару сказаў, з чаго відаць толькі, што газэта была «ворганам беларускіх буржуазных нацыяналістаў», што «Цётка, Багдановіч, Бядуля, Купала, Колас і іншыя дэмакратычныя пісьменьнікі змушаны(?!) былі друкаваць у ёй некаторыя свае мастацкія творы», ды што «Наша Ніва» падтрымоўвала царызм і адкідала рэвалюцыю», а не стаяла «на пазыцыі барацьбы з самадзяржаўем», як гэта казала раней «Литературная Энциклопедия». Тымчасам у манаграфіі Мазалькова пра Купалу (Менск, 1954, б. 98) зьмешчаны ўспамін удавы паэты аб «Нашай Ніве», дзе гаворыцца: «Купала быў рэдактарам («Нашай Нівы»), а Бядуля сакратаром. На іх абодвух ляжала пісаньне артыкулаў і карэктура, і выдаваньне газэты, і ўся адказнасьць за яе. Як асьцярожна ні стараліся яны пісаць, як ні мянялі псэўдонімы, ваенная цэнзура ўсё-ж знаходзіла да чаго прычапіцца, і ў выніку ледзь ні кажны нумар «Нашай Нівы» выходзіў зь белымі плямамі купюраў...» Значыцца, «Наша Ніва» была ўсё-ткі на «пазыцыі барацьбы з самадзяржаўем», наўсуперак хаценьню аўтараў «Гісторыі БССР»!...

Пяты том «Лит. Энц.» (б. 731) падае, што «Купала ад 1911 да 1915 году рэдагуе газэту „Наша ніва" ў Вільні». Мазалькоў-жа ў тэй самай манаграфіі (б. 98) тэрмін гэты значна скарачае: «Бадай паўтара гады, ад 7. 3. 1914 году да 7. 8. 1915 году, ён (Купала) быў ейным („Нашае Нівы") рэдактарам»...

Падобных надакладнасьцяў ды бязглуздых «сальто мортале» ў вацэне «Нашае Нівы» па савецкіх кніжках можна знайсьці безліч. Тут падаем парачку дзеля характарыстыкі хаосу, што пануе цяпер у савецкай гістарыяграфіі адносна нашаніўскага пэрыяду.

У падручніку С. Васілёнка «Белорусская Литература» (Масква, 1951) «для філялягічных факультэтаў ды факультэтаў расейскае мовы й літаратуры» аб «Нашай Ніве» (б. 92—93) гаворыцца: «Беларускія нацыяналісты абвесьцілі „Нашу Ніву" рэвалюцыйна-дэмакратычнай газэтай, якая быццам-бы ўзгадавала Я. Купалу, Коласа, Цётку, Багдановіча і залажыла асновы новай рэвалюцыйна-дэмакратычнай беларускай літаратуры. Гэтую памылковую й шкодную думку падзялялі да апошняга часу некаторыя літаратураведы й крытыкі» (тут-жа ў зносцы падаюцца некаторыя выданьні **1947 году** з «памылковымі й шкоднымі думкамі»). Вось-жа паводля Васілёнка выходзіць, што «Купала, Колас, Цётка й Багдановіч ідэйна й творча расьлі не дзякуючы „Нашай Ніве", а ў **барацьбе** зь ёй, аб чым пераканальна гаворыць ідэйны зьмест іхнага творства, варожы асноўнаму палітычнаму кірунку газэты». Тут яшчэ раз прыводзім словы Купалавае жонкі (апублікаваныя ў 1946 г.): «Купала быў рэдактарам, а Бядуля сакратаром. На іх абодвух ляжала пісаньне артыкулаў і карэктура, і выдаваньне газэты, і ўся адказнасьць за яе...». Цеснымі супрацоўнікамі «Нашае Нівы» былі таксама й Цётка, і Багдановіч, і Колас; кажны сьведамы Беларус у гэтыя часы лічыў сваім абавязкам дапамагаць адзінай тыднёвай беларускай газэце. Гэта-ж цьвердзіць і Мазалькоў (б. 30 і 34): «„Наша Ніва" зьбірала й гуртавала вакол сябе беларускую інтэлігэнцыю, што непасрэдна выйшла з народу... Вакол „Нашай Нівы" задзіночылася група выдатных беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў: Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Бядуля й іншыя».

І як маглі «ідэйна й творча расьці ў **барацьбе** з „Нашай Нівай"», згуртаваныя вакол гэтай-жа газэты ейныя рэдактары й галоўныя супрацоўнікі — Купала з Коласам ды Цётка з Багдановічам — гэта вядома толькі бязглуздаму й выслужліваму бальшавіцкаму падхаліму. На завяршэньне гэтага эпізодзіка вось яшчэ цьверджаньне пятага тому «Литер. Энц.» (б. 731): «Палітычныя ідэалы Купалы (гутарка йдзе аб часох „Нашай Нівы" і пазьнейшых гадох) ня выходзяць аднак з рамак нацыяналізму й буржуазнага дэмакратызму нашаніўцаў».

У Васілёнкавым «падручніку беларускае літаратуры» (б. 94) стаіць: «Нашаніўцы ня толькі не дапамагалі, але перашкаджалі разьвіцьцю беларускай літаратуры». Мазалькоў-жа (б. 34), пералічваючы прозьвішчы ўсіх выдатных паэтаў і пісьменьнікаў — супрацоўнікаў «Нашае Нівы», заяўляе, што «яны слушна ўважаюцца за роданачальнікаў сучаснае беларускае літаратуры й за стваральнікаў беларускае літаратурнае мовы». У гэтай «дыялектыцы» хіба ўжо й сам Мікіта Хрушчоў не разьбярэцца...

Васілёнак, каб падмацаваць вышэй прыведзенае цьвярджаньне аб перашкаджаньні нашаніўцамі разьвіцьцю беларускай літаратуры, ды «выратаваць», прыкладам, Купалу спад уплываў нашаніўства, піша (б. 93): «Купала, як глыбока дэмакратычны пісьменьнік, склаўся за шмат гадоў да зьяўленьня „Нашай Нівы" пад уплывам нарастаючай рэвалюцыі 1905—1907 гг... ды перадавой расейскай літаратуры».

Здорава! Купала, які прыйшоў у літаратуру толькі ў 1905 годзе ды рост свой зьвязаў з ростам усяго нашаніўскага руху, у хворай фантазіі бальшавіцка-расейскага фальсыфікатара «склаўся за шмат гадоў да зьяўленьня „Нашае Нівы"»!

Васілёнак, каб паказаць, чые інтарэсы бараніла «Наша Ніва», падае быццам-бы цытату зь першага нумару газэты, дзе яна заяўляе, што будзе змагацца **«ня толькі за паноў,** (падкр. намі — С. Я.), але й за мужыкоў». Гісторыі-ж вядома, што «Наша Ніва» была прадаўжальніцай сканфіскаванае на шостым нумары ў 1906 годзе «Нашае Долі», у першым нумары якое ўжо было спрэцызаванае ідэялягічнае крэдо ўсяго нашаніўства: «Мы будзем бараніць справы вясковых людзей. Лічачы найбольшым нашым ворагам цемнату й бяспраўнае паложаньне мужыка, мы аб'яўляем вайну ўсім цёмным сілам, каторым выгадна было трымаць народ беларускі ў няволі й паняверцы, баламуціць і дурыць яго».

У кніжцы-ж Мазалькова (выдадзеная толькі адзін год пазьней за Васілёнкаву, б. 37) мы знаходзім катэгарычнае запярэчаньне Васілёнкавае хлусьні (і ці толькі ягонае!): «Сотні апавяданьняў на беларускай мове атрымоўвала рэдакцыя „Нашае Нівы" з самых глухіх мядзьвежых закуткаў. Вестка аб першай газэце на роднай мове борзда распаўсюдзілася сярод беларускага народу. Пісалі сяляне, настаўнікі, дрывасекі, плытнікі. Беларускі селянін — эмігрант З. Дубовік прыслаў вершы зь Нью Ёрку...» Частыя цэнзурныя купюры й гэткае шырокае безьінтэрэсоўнае кола супрацоўнікаў і карэспандэнтаў — гэта найлепшы довад, што «Наша Ніва» ніякіх панскіх інтарэсаў не бараніла, і што... Васілёнак бязрадна выдумляе.

*

Няма сумлеву, што пры сяньняшнім русыфікацыйным курсе ў савецкай Беларусі, далейшыя фальсыфікатары нашаніўскае пары бяз мыла палезуць сьледам за Васілёнкам... Будуць зьяўляцца новыя «працы, досьледы, манаграфіі»; будуць перакручваць усё ўверх нагамі ў школьных падручніках, каб вырваць з карэньнем праўду аб «Нашай Ніве».

Таму тым большае падтрымкі заслугоўвае заплянаванае Беларускім Інстытутам Нав. і Маст. шырокае сьвяткаваньне 50-х угодкаў «Нашае Нівы». Трэба, каб гэтая важная дата адзначылася ня толькі паўсюднымі рэфэратамі й дыскусіямі (ці не зрабіць-бы Інстытуту адмысловы цыркулярны рэфэрат для выкарыстаньня яго ў меншых асяродках?), ня толькі колькімі газэтнымі артыкуламі, але й шырокай навукова-дасьледчай ды выдавецкай працай, якой трэба абавязкава ахапіць жывы яшчэ сяньня гістарычны матар'ял: успаміны сучасьнікаў «Нашае Нівы» й нашаніўцаў, высьвятленьне долі тыражу газэты, збор дакумэнтаў і здымак, выпіска й супрацьпастаўленьне «навуковых» ды «падручнікавых» фальсыфікатаў а ля Васілёнак і шмат чаго іншага. Усё гэта мусіў-бы быць матар'ял для адмысловае манаграфіі, прысьвечанай першай вялікай беларускай газэце.

*

Цяпер, у часе барбарскага фальсыфікаваньня на Беларусі ўсяго нацыянальнага зьместу нашаніўскае пары, у Купалавых зборніках нельга знайсьці ўжо мноства ягоных найлепшых твораў. Ня знойдзецца там больш і вершу «Нашай Ніве» («Не загаснуць зоркі ў небе...»), што стаўся адным з нашых нацыянальных гімнаў. Купала напісаў у ім: «Наша зерне — нашы думкі не загінуць сьвету, — блеснуць краскай непаблеклай вечных агняцьветаў». Так! Не загіне сьвету ні гэтая купалаўская песьня-гімн, ні сьветлы ўспамін нашаніўскае пары. Яны будуць жыць у народзе. Іх ня выкараняць партыйныя фальсыфікатары, як ня выкараняць тае багатае духовае спадчыны, што пакінула нашаму вызвольнаму руху нашаніўская пара.

Бо, як казаў Купала «Нашай Ніве»: «Не загіне край забраны, покі будуць людзі».

**Сяргей Ясень**

# Антыангла-амэрыканская прапаганда ў БССР

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Цяпер пяройдзем да разгляду антыангла-амэрыканскай прапаганды, якая вядзецца ня толькі ў беларускай мове, але і паводля зьместу яна ёсьць прыгатавана вылучна для Беларуса. Мы ня маем доступу да ўсей беларускай прэсы БССР, якая сяньня займае, пасьля расейскай і украінскай, трэйцяе месца ў Савецкім Саюзе, але і тое, што нам тут на чужыне ёсьць даступным, дастаткова паказвае на факт, што ў БССР вядзецца вялікая прапаганда супраць ЗША і супраць Вялікабрытаніі. Прыняўшы пад увагу, што ў БССР сяньня выдаецца 10 рэспубліканскіх газэт, 14 часапісаў, 7 абласных, 5 гарадзкіх, 175 раённых і 17 шматтыражных, што дае агульны аднаразовы тыраж каля 1.600.000 эгзэмпляраў і што ўсе яны супраць Англа-Амэрыканцаў адно і тое самае трубяць, — трэба прызнаць, што прапагандовыя натугі вялізарныя. Дадзеныя статыстычныя мы паўтараем за «Звяздой» з дня 5 траўня 1955 г. (Гл. артыкул Г. Канавалава, Магутная зброя нашай партыі. Тут паданая статыстыка крыху рожніцца ад тэй, якую знаходзім у «Звязьдзе» з дня 3 лістапада 1951 г.)

Пераглядаючы менскую «Звязду», «Савецкую Беларусь», «Беларусь» і іншую савецкую прэсу за апошнія гады, мы спатыкаем вялікую колькасьць розных зацемак, артыкулаў, лекцыяў выразна прапагандовага антыангла-амэрыканскага характару. Сярод аднак паводкі матарыялу выдзелаяюцца тры вярставыя артыкулы ў «Зьвязьдзе», з каторых два маюць адзінакавы назоў: «Амэрыкана-англійскія імпэрыялістыя зьлейшыя ворагі беларускага народу». Толькі падназовы розныя. Артыкул друкаваны дня 21 сьнежаня 1951 г. мае падназоў: «Матар'ялы аб аграбленьні амэрыкана-англійскімі імпэрыялістамі заходніх абласьцей Беларусі ў 1919—1939 г. г.» Другі артыкул, надрукаваны крыху пазьней, 7 лютага 1952 г., паясьняецца наступным падназовам: «Матар'ялы аб падрыўной дзейнасьці амэрыкана-англійскіх імпэрыялістаў супраць Савецкай Беларусі». Аўтары артыкулаў ёсьць розныя: першага П. Савачкін, старшы выкладчык Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту, а другога С. Ісачэнка. Імёны абодвых для шырэйшай беларускай грамадзкасьці мала ведамыя.

Прачытаўшы крыклівыя загалоўкі, чалавек дзівіцца, куды дакацілася савецкая прапаганда! Дзе Рым, а дзе Крым! Дзе Амэрыка, Вялікабрытанія, а дзе Беларусь! Абсурд усей прапаганды ў тым, што ніхто ні асьмельваецца пагадзіцца з прапагандным крыкам у тым, што эканамічныя і палітычныя інтарэсы Амэрыкі і Вялікабрытаніі настолькі зазубліваюцца зь інтарэсамі беларускага народу, што ў імя гэтых-жа інтарэсаў трэба Амэрыканцаў і Ангельцаў называць зьлейшымі ворагамі нашага народу.

Варта аднак, хоць і ў скароце, прааналізаваць вышэйуспомненыя артыкулы, каб зразумець савецкую лёгіку прапаганднай хлусьні, а найважнейшае, каб зразумець мэту падобнай прапаганды ў Беларусі.

У першым зь іх, якога падназоў: «Матар'ялы аб аграбленьні амэрыкана-англійскімі імпэрыялістамі заходніх абласьцей Беларусі ў 1919—1939 г. г.» маем, апрача даволі доўгага ўступу, яшчэ дзьве часткі: 1) Эканоміка панскай Польшчы ў цісках замежнага капіталу, 2) Заходняя Беларусь пад прыгнётам замежнага і польскага капіталу.

У ўступе ёсьць гутарка аб «перамогах» кастрычніцкай рэвалюцыі. Тут-жа між іншым чытаем: «Самымі няпрымірымымі і самымі няпрыкрытымі ворагамі савецкай дзяржавы, найбольш актыўнымі арганізатарамі і натхніцелямі барацьбы супраць нашай радзімы выступілі імпэрыялістыя Злучаных Штатаў Амэрыкі». На доказ гэтага аўтар прыводзіць словы Леніна, які яшчэ ў 1918 г. пісаў: «Ідэялізаваная дэмакратычная рэспубліка Вільсона аказалася на справе формай самага шалёнага імпэрыялізму . . .» (Творы, т. 28, бач. 171).

Далей чытаем, што «амэрыканскія імпэрыялістыя выступілі ініцыятарамі інтэрвэнцыі супраць Савецкай Расеі, разам зь імпэрыялістымі другіх краін паслалі свае ўзброеныя сілы на тэрыторыю нашай краіны. Міжнародная рэакцыя на чале з амэрыканскімі імпэрыялістымі арганізавала і ўсяляк падтрымлівала нутраную рускую контррэвалюцыю Калчака, Дзінікіна, Юдзеніча . . .»

Польшча была створана капіталістымі ЗША, Англіі і Францыі, як патрэбны ім пляцдарм для барацьбы супраць савецкай рэспублікі. Граніцы Польшчы, дзякуючы намаганьням імпэрыялістых, былі створаныя за кошт савецкай краіны.

«Захапіўшы заходнія вобласьці Беларусі, польская буржуазна-памешчыцкая кліка аддала іх на разграбленьне амэрыкана-англа-францускаму манапалістычнаму капіталу».

У далейшым апісваецца марны эканамічны стан Польшчы, падаюцца розныя статыстычныя дадзеныя, зь якіх мае вынікаць факт, як замежны капітал грабіў польскія і беларускія вёскі Заходняй Беларусі.

Каб паказаць Амэрыканцаў беларусаедамі, падаецца наступны факт: «Амэрыканскі фінансавы экспэрт Крэмэрэр, які зьяўляўся супрацоўнікам самых буйных банкаў Уол-стрыту, пасьля «абсьледаньня» ў 1925 г. гаспадарчага становішча Польшчы і ў прыватнасьці заходніх абласьцей Беларусі, патрабаваў поўнай ліквідацыі тут прамысловасьці і ператварэньня Польшчы ў тыповую аграрную краіну, у рынак для збыту прадукцыі амэрыканскай прамысловасьці, у рынак сыравіны і таннай рабочай сілы».

На пацьверджаньне ўсяго гэтага падаюцца статыстычныя, нікім не правераныя лікі. Яны маюць так-жа быць доказам, што ў Заходняй Беларусі праводзіўся за часоў польскай дзяржаўнасьці эканамічны грабёж, які адбываўся «пад дыктоўку амэрыкана-англа-францускіх манаполіяў».

Вось лёгіка артыкулу: Польшча паўстала дзякуючы дапамозе Англа-Амэрыканаў як пляцдарм для вайны з Савецкім Саюзам. Польшча прадалася эканамічна сама чужому капіталу, а такжа аддала на эканамічнае разграбленьне Заходнюю Беларусь і Украіну. У часе вайны «міралюбівы» Савецкі Саюз прыйшоў ратаваць гэтыя краіны! . . .

Чаму англа-амэрыканскія імпэрыялістыя «зьлейшыя ворагі» беларускага народу? Бо іхнія капіталы ў спалучэньні з польскімі зруйнавалі Беларусь эканамічна.

Што Польшча эканамічна не стаяла на ўзроўні, хоцьбы такім, на якім знаходзілася маленькія Латвія і Летува і што Беларусу жылося цяжка, бо цярпеў эканамічны і нацыянальны прасьлед, гэта ўсім ведама. Годзе ўспомніць дурную палітыку ў Заходняй Беларусі польскага асадніцтва і Картускую Бярозу. Але мы ня можам пагадзіцца з савецкай прапагандай, што ў Заходняй Беларусі і ў Заходняй Украіне пад Польшчай жылося горш, чымся ў Савецкай Беларусі і Украіне. Для савецкай аднак прапаганды ня важна, як было ў запраўднасьці, але яны паставілі сабе за мэту зганьбаваць Англічан і Амэрыканцаў, а ўсе сяродкі дзеля іхняй мэты добрыя! . . Беларус так за часоў царскай Расеі, як і пазьней меў вельмі добрую апінію аб Амэрыцы і яе жыхарох. Няраз прадаваў апошнюю карову, каб толькі дабрацца за акіян і прызарабіць грошы. Каля добрых пару мільёнаў Беларусаў такім чынам выехала ў Амэрыку на працягу апошніх 50 гадоў і вельмі мала хто зь іх вярнуўся. Аб Амэрыцы на Беларусі ледзь ня легенды паўставалі. Таму савецкая прапаганда за ўсякую цану пастанавіла забіць легенду. Гэта важна для Саветаў яшчэ і дзеля таго: а прыдзі вайне і Амэрыканцам у Беларусь? За кім тады мільёны Беларусаў пойдуць?

Калі ў першым артыкуле галоўным аргумэнтам, які меў-бы паставіць на ногі Беларусаў супраць Ангельцаў і Амэрыканцаў, ёсьць эканамічны матыў, дык у другім нацыяналістычны і шпіянажу.

(Заканчэньне у наступным нумары)

**А. Дзе-ка**

# Злачынства ў даліне ракі Дравы

**(Працяг з 2-ой бачыны)**

Дарога на Плёкэн-Пас уецца сэрпэнтынай. Цэлы дзень і ноч на 3 траўня йшоў сьнег. Самаход, якім ехаў генэрал Красноў разам з жонкай і ад'ютантам, астанавіўся. Прычапілі яго да штабнога аўтабусу і пацягнулі на ліне. А 22,30 гадзіне Красноў мінуў цясьніну і затрымаўся ў вёсцы Маўтэн-Кэтшах.

5 траўня прыбыў Даманаў з арыергардай. 6-га выслаў наперадзе дэлегацыю зь белым сьцягам да Ангельцаў. Дэлегацыя вярнулася зь весткай, што брытанскі генэрал брыгады асьветчыў наступнае: нічога канкрэтнага аб далейшым лёсе Казакаў сказаць ня можа; можа толькі запэўніць, што ў ніякім выпадку ня будуць выдадзеныя Саветам.

### ЧАКАЛЯДА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І «СЛОВА ГОНАРУ» ДЛЯ СТАРЭЙШЫХ

На другім баку, у даліне, была вясна. Па каменьнях, пенячыся, гналася рака Драва. Коні, сходзячы па шэрым асфальце аўстрыяцкай дарогі, шырака раздымалі храпы, удыхаючы сачыстае зяленіва надбярэжных лугоў. Яздакі жмурылі вочы ад жаўціны кветак на лугох. Смалістa пахнулі на сонцы сосны і елкі. Горскі вадапад вадзяністым пылам разьбіваўся па скалах. Закутак забыты вайной; даліна ціхіх палёў і жаўранкаў над імі.

На месцы засталі ўжо каўкаскія аддзелы. Загад брытанскі гаварыў: павінны разлажыцца біваком уздоўж Дравы, чыгункі і шасы на прасторы 21 км.

У паўночнай часьці гораду Ліенц, перапалоўленага ракой Дравай, стаў гасподай штаб атамана Даманава. Генэрал Красноў разам з жонкай пасяліўся ў васобнай вілі ў ваддегласьці 4 км ад гораду, якую яму ветліва вызначылі брытанскія ўлады. На правым беразе станула казацкая юнкерская школа, далей — прыбочны дывізіён і І-ы конны полк. Уздоўж левага берагу: казацкая жандармэрыя, палкі донскія, кубанскія й церскія. Далей абозы й варштаты. Прастор на ўсход ад вёскі Нікольсдорф аж да Обэрдраўбург занялі каўкаскія аддзелы, г. зв. Каўказкі легіён пад камандваньнем Султан-Кэлеч-Гірэя. Сем'і й цывільныя ўцекачы знайшлі выгоднае памяшчэньне ў бараках былага лягеру для ваеннапалонных брытанскіх, Пэггэц, аддаленага паўтара км ад Ліенцу.

У паўдзённай часьці места знаходзіўся брытанскі штаб. Казаком пакуль што было пакінутае аружжа, а з днём 15 траўня пачалі выдаваць правіянт. Задымілі нязьлічоныя вогнішчы каля шалашоў і палатак. Былі збудаваныя палявыя цэркаўкі. Быў Вялікдзень. Былі так-жа выдаваныя новыя мундзіры. Камандуючы аднэй з казацкіх брыгадаў зьвярнуўся да брытанскіх уладаў з запытаньнем, ці маюць надалей весьці вайсковае абвучэньне.

— Зразумела — адказалі. — Будзеце магчыма ўжо хутка патрэбныя.

Ня была гэта ніякая рэвэляцыя, а скарэй пацьверджаньне агульнага аптымізму палітычнага. Знайшліся аднак пэсымістыя, якія прадсказвалі, што запрапануюць Казакам службу ў калёніях. Але такія належылі да выключэньняў. Юнкерскую школу адведала некалькі брытанскіх ахвіцэраў. Калі перакладальніца расказвала ім, што некаторыя зрабілі тысячы кілямэтраў, каб вырвацца з пад бальшавіцкага ярма, брытанскі ахвіцэр уздыхнуў:

— Няхай ім Бог памагаў.

16 траўня, назаўтрае пасьля выдачы багатых прадуктовых порцыяў, было загадана Казакам злажыць аружжа, пакідаючы яго толькі ахвіцэрам і жандармэрыі.

Існуе старое, як сьвет, людзкое дасьветчаньне, што як у жыцьці цывільным не аддаецца грошаў, гэтак у жыцьці вайсковым не аддаецца аружжа інакш як пад — мураваны вэксаль! Што-ж аднак зрабіць, калі іншыя навучаюць, што аптымізм і вера здольныя парушыць горы.

Да гасподы прыватнага казацкага банку, памешчанага ў вадным з будынкаў Ліенцу, рана прыбыў аддзел брытанскіх жаўнераў і зажадаў выданьня ключоў ад касы. Паміма пратэстаў, што каса зьмяшчае вылучна прыватныя грошы Казакаў, жаўнеры заладавалі яе на грузавік і вывезьлі. Тымчасам брытанскі зьвязны ахвіцэр загадаў раздаць дзецям апэльсыны й чакаляду. Запрапанаваў арганізацыю канцэртаў і з гэтай мэтай адшукаць адпаведную залю ў горадзе. Залю знайшлі. Абяцаў яе прыгожа адрамантаваць за кошт акупацыйных уладаў. Абяцаў збудаваць крытыя кухні, каб Казакі не патрабавалі варыць на вогнішчах. Узапраўды, пачалі ўжо прывозіць цэглу. Напасьледак выступіў з праектам выдаваньня казацкай газэты. З гэтай мэтай у памяшчэньні былага нямецкага Арбайтсамту склікаў нараду, на якую прыбыло 12 асоб з рэдактарам Тарускім на чале. Ахвіцэр выламыў свой плян, запэўніваючы аб выдачы неабходных фінансавых сяродкаў. Пакуль што папрасіў — іменнага сьпіску ўсіх журналістых. Далі яго з гатоўнасьцю.

— Thank you very much — адказаў ахвіцэр.

Некалькі дзён пазьней Тарускі кончыў самагубствам . . .

Але ня выбягайма наперад.

Раньняй раніцай 27 траўня было пададзена да агульнага вемама, што ўсё казацкае войска будзе артымліваць поўныя пайкі брытанскай арміі.

— Гурра! — крычалі па палатках і шалашох.

Некалькі гадзін пазьней, а 10-ай, загадана ўсім ахвіцэрам і жандармэрыі аддаць аружжа да 12-ай апаўдні. На пытаньне атамана Даманава, было выясьнена, што тут расьходзіцца толькі аб замене аружжа на больш адналітае й навачаснае.

Назаўтрае, 28 траўня, паведамлена Даманава, што ўсе ахвіцэры й вайсковыя ўрадаўцы маюць прыгатавацца на гадзіну 1-ую па паўдні да выезду на спэцыяльную канфэрэнцыю з брытанскімі ўладамі.

Дзень быў гарачы. Неба бяз хмурынак. Паўстала пытаньне, у што ўбрацца на канфэрэнцыю, да якой бальшыня казацкіх ахвіцэраў прывязвала вялікую вагу. Да канфэрэнцыі з найвышэйшымі брытанскімі ўладамі!

— Плашчы браць? Вечар можа быць халодны.

— Але-ж скуль. Ніякіх рэчаў, ніякіх плашчаў — ахвіцэр растапырыў пальцы на руцэ, а другой, загінаючы палец па пальцы, пачаў вылічаць: — Мае спадары, а 3-яй пачынаецца канфэрэнцыя ў Вільлях, нарады патрываюць гадзіну, найвышэй паўтары; а 5-яй, найдалей а 5.30, ну, скажам, а 6-ай будзеце ўзноў дома.

Ахвіцэры пачалі шыбка разыходзіцца, каб пасьпець перапрануцца ў найлепшыя мундзіры, выгалянсаваць боты. У бліскучых эпалетах зьявіліся на месца ад'езду. Тыя із старой эміграцыі прышпылілі царскія ордэны. У тую хвіліну . . . дзесьці далёка, здавалася ў горах, загрымеў адзіночны стрэл. Ніхто тады на яго не зьвярнуў увагі. Гэта застрэліўся падэсаўл Галавінскі, «такі дзівак», як аб ім учора гаварылі: адзіны, які адмовіўся здаць аружжа. Самаходы ўжо пад'яжджалі.

Там, дзе ня дзеіць дасьветчаньне, дзеіць часамі інстынкт: некаторыя з жонак пачалі раптам, бязь ніякай відочнай прычыны, плакаць.

— Прашу ўспакоіць жонак — сказаў ахвіцэр да перакладальніцы. — Даю слова брытанскага ахвіцэра, што іхныя мужы вернуцца найпазьней між 5-ай і 6-ай вечарам.

День быў сьпякотны. Можа дзеля гэтага гадзіны паўзьлі гэтак доўга. Прыйшла напасьледак 5-ая, чакалі да 6-ай. . . Мінула 7-ая... На канфэрэнцыю выехала пара тысяч ахвіцэраў. Ніводзін зь іх не вяртаецца. Страшнае прачуцьцё пачало агортываць пакінутыя сем'і. Жаўнеры таксама пачалі зьбірацца і разважаць.

Ніхто зразумела ня мог ведаць аб тым, што ўжо пяць дзён перад гэтым, 23 траўня 1945 году, між уладамі брытанскімі й савецкімі было дасягнутае ў Вене пагадненьне аб выданьні ўсіх ахвіцэраў і іхных сем'яў у рукі савецкіх уладаў.

У станіцах уздоўж Дравы прыступілі напасьледак прыгатаўляць вячэру.

Раптам, а 8-ай вечарам была выкліканая перакладальніца да канцылярыі ў Пэггэц . . .

(Далей будзе)

**Язэп Мацкевіч**



**Зіма на Беларусі**

# Савецкая навука на Беларусі

**Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзівая ня йдзе разам зь няволяй маскоўскай.**

**Кастусь Каліноўскі**

Ува ўсім вольным сьвеце — і так ужо вядзецца ад даўных часоў — навуковыя ўстановы й арганізацыі ў сваёй працы не залежалі ад дзяржавы. І калі мы пераглядзім гісторыю навукі, дык перакаемся, што яны заусёды былі носьбітамі сьвятла, гуманізму й нацыянальнага адраджэньня. Праўдзівая навука ніколі не давала закабальваць сябе ў вузка палітычныя інтарэсы каго-б там ня было. Бо тады яна пераставала быць сьвятлом, і тады, як непадзельная частка людзкое свабоды, яна знаходзіла сваіх абаронынікаў.

Цяпер у паняволенай Беларусі навука сталася паслухмянай прыладай бальшавіцкае рэакцыі. Побач з калгасьнікам і хвабрычным работнікам, працаўнік навукі стаўся таксама нявольнікам — усё тае-ж, «адзінае й недзялімае», камуністычнае партыі. Усюды — партыя, свабоды — нідзе. . .

У найвышэйшай беларускай навучальнай установе, у Дзяржаўным Унівэрсытэце, як пасьветчыў сам прарэктар гэтае ўстановы ў «Советской Белорусии» з 8 верасьня 55 г., завялося «пачытніцтва, тальмудызм ды вульгарызатарства». Пэўна-ж, паняцьці гэтыя маюць тут адмоўны сэнс у вуснах бальшавіцкае прапаганды, але да чаго-ж іншага можа давесьці, прапанаваны тым-жа прарэктарам (партыйцам!) дзяржаўнага ўнівэрсытэту, рэцэпт для выкладчыкаў ўсіх катэдраў: «Трэба шырока практыкаваць папярэдняе абмяркоўваньне лекцыяў. . .»! Вось да чаго дажыўся савецкі прафэсар і навуковец: чалавек, што павінен быць найвышэйшым аўтарытэтам у сваёй навуковай галіне, мусіць перад выхадам да аўдыторыі кантралявацца. . . палітруком. Таму ня дзіва, што ў беларускай савецкай навуцы ня толькі вульгарызатарства (ужо ў запраўдным сэньсе слова), але таксама мярцьвячына й застой. Матар'ялістычнай плесьняй пакрыты ня толькі ўнівэрсытэцкія катэдры, — у гэтай гнілой партыйнай твані загрузла і ўся так званая Акадэмія Навук БССР, а ў прыватнасьці, ейны Інстытут філялёгіі й права.

«Зьвязда» з 10 сьнежня 55 г. зьмясьціла на сваіх балонах зацемку аб працы гэтага Інстытуту. Як аказваецца, дык гэтая навуковая ўстанова з шырокім штатам супрацоўнікаў за ўвесь час свайго існаваньня нічога ня выдала (а значыць, і не зрабіла), акрамя двух манаграфіяў. З тае-ж зацемкі даведваемся, што **«ў пляны Інстытуту часта ўносіліся праблемы й тэмы, якія праз некаторы час з тых ці іншых прычынаў трацілі сваё актуальнае значэньне і здымаліся. А над імі супрацоўнікі Інстытуту працавалі часам цэлыя гады»!** Што гэта за «тыя іншыя прычыны», дзеля якіх шматгадовая праца навуковых работнікаў «траціць сваё значэньне й здымаецца»? Гэта й ёсьць тая «генэральная лінія», што мусіць дапасоўвацца і да дакладу Маленкова, і да лёсу Бэрыі, і, урэшце, да балбатні Хрушчова.

Чаму-ж не паўтарыць тады яшчэ раз словы нашага Каліноўскага? . .

**Р. Л.**

# Літаратурны Дадатак

**Адам Міцкевіч**

### АЛЬПУГАРА

**(Баляда з паэмы «Конрад Валенрод»)**

Леглі руінамі маўраў пасады,
Воля іх люду расьпята;
Штурмам ня ўзяты цьвярдыні Гранады
Але пануе чума там.

Толькі на тромах ля веж Альпугары
Б'ецца атрад Альманзора;
К штурму выносяць Гішпанцы штандары —
Войскам аточаны горы.

Золак заняўся. У дыме паўсьвету.
Крэпасьць, да веж, у крыві ўся.
Крыж узьнімаецца на мінарэты:
Замак апошні скарыўся.

Сам Альманзор як убачыў, што рота
Мёртвай лягла ў вабароне,
Праз агарожу стрэл, шабель і дроту
Ранкам уцёк ад пагоні.

Баль у Гішпанцаў пачаўся між трупаў
На альпугарскіх руінах,
Скарб і палонных пад поклічы трубаў
Дзеляць, купаюцца ў вінах.

Раптам прыбрамная варта даносіць:
Рыцар з чужое краіны
З панствам спатканьня, прыехаўшы, просіць,
Важныя мае навіны.

То Альманзор сам, кароль музульманскі,
Кінуў прытулак бясьпечны,
Здаўся ён, просіць ён ласкі гішпанскай,
Раб і таварыш сардэчны.

«Я ля гішпанскага, — кажа, — парогу
Стаў у пакоры глыбокай,
Буду маліцца я вашаму Богу,
Вашым паверу прарокам.

Прагну, каб слова па сьвеце крыляла,
Як маўрытанец багаты,
У пераможцаў сваіх за васала,
Лічыцца меншым іх братам.

Сьмелых Гішпанцы шануюць заўсёды;
Як Альманзора пазналі,
Быццам-бы друга на ратных паходах,
Шчыра Араба віталі.

Кажнага ён па чарзе абдымае
Так, каб рамёнамі хруснуў,
А палкаводца к сабе прыціскае,
Вуснамі ўпіўшыся ў вусны.

Раптам упаў Альманзор ад зьнямогі,
Б'е галавою аб камень,
Але турбан палкаводцу пад ногі
Кволымі сьцеле рукамі.

Кінуў пагляд — усе дзівяцца дзівам:
Шчокі сьсінелі, запалі,
Вусны зьмяцца ўсьмешкай жахлівай,
Зрэнкі крывёй запалі.

«Гляньце, Гяуры! Я горды і рады,
Што адплаціў вам адразу.
Вы ашуканы: прынёс я з Гранады
Вам, як дарунак, заразу.

Я пацалункам сьмяротнай атруты
Ў душы наліў вам, паверце,
Хай вас ня цешаць Араба пакуты:
Мусіце гэтак памерці!»

Рукі прасьцёр ён у хвілю нягоды,
Быццам абдымкам сьмяртэльным
Хоча Гішпанцаў скаваць назаўсёды,
Сьмехам сьмяецца пякельным.

Так і сканаў ён. Дрыжалі павекі,
Пена на вуснах кіпела.
Дзікі страшэнны, застаўся навекі
Сьмех той на твары зьбялелым.

Беглі Гішпанцы, нібыта ад кары,
Побач чума зь імі бегла;
Мала хто вышаў зь цясьнін Альпугары,
Рэшта іх войска палегла.

Пераклаў **А. Вялюгін**

### МАРАК

**(З альбому З.)**

Калі ты ўбачыш, як бурнай хваляй
Кідае ў бездань човен вандроўны,
Ня плач — запомні: ня трэба жалю
Таму, хто выбраў шлях рызыкоўны.

Ня стала ў чоўна надзейнай сховы —
Зьнік карабель, і шляхі ў тумане,
Але навошта спагады словы
Плыўцу, што страціў усе спадзяваньні?

Яму лепш бура, яму лепш мукі,
Лепш яму грозны шум ўдар нечаканы,
Чым недзе ў цішы заламваць рукі,
Глядзець у даль ды падлічваць раны...

Пераклаў **К. Кірэенка**

### ПАЛІЛІСЯ МАЕ СЬЛЁЗЫ

Паліліся мае сьлёзы, як дождж чысты
і краплісты,
На маленства, што было анельскім, сельскім,
На юнацтва час мой шумны, неразумны,
А таксама на век сталы, век няўдалы.
Паліліся мае сьлёзы, як дождж чысты
і краплісты...

Пераклаў **М. Танк**

### ПЕСЬНЯ ПІЛІГРЫМА

Зноў гамоняць лісьцем дрэвы,
Воды весьнія плюскочуць,
Салаўя ня ціхнуць сьпевы
Ў лузе конікі стракочуць.

Дык чаму стаю задумны,
У вясеньні дзень смутлівы?
Сіраціна, сэрцам сумны,
З кім вясну дзяліць мне тую?

За акном сягоньня твары
Я музык вандроўных бачу,
Чую сьпеў і звон гітары,
Адчыню вакно і плачу.

Закаханыя музыкі
Клічуць зноў сваю каханку.
Зь кім-жа мне дзяліць да ранку
Гэтых сьпеваў сум вялікі?

Знаў я ліха шмат і гора,
Не вярнуся больш да дому,
Не сьпяю свой сьпеў нікому,
А замкну ў магілу скора.

Склаўшы рукі, я сядаю,
Сьвечка сьвеціць так самотна;
Ў думках песеньку складаю
Ці пяром рыплю журботна.

Льлецца песьня, як крыніца,
Ды ў грудзёх маіх трывога,
Бо душа, нібы ўдавіца,
Ўсюды бачыць сірат многа.

Вось вясна зьмяняе зіму,
Сад духмяна расьцьвітае,
Сумна толькі пілігрыму,
Бо ўдавец і сірата я.

Пераклаў **А. Зарыцкі**

# Гасьцінная куцьця

Інжынер Бутковіч сабраў усе паперы, сунуў іх у шупляду стала і стомлена пазяхнуў.

«Працуй цэлы дзень у трэсьце, а тут шчэ й дома» — падумаў ён з горкай прыкрасьцяй. «То разьлікі ўдакладніць, то праект перагледзець. Стараешся, пнешся, а ўсё дарэмна. Няма даверу беспартыйнаму. Ня дай Божа, якія памылкі» — разважаў далей Бутковіч — дык мяне адразу ў турму. Вораг народу, шкоднік, скажуць. А як добра, удалы праект — не мяне, а гэтага невука, начальніка ўзнагародзяць. Ордэн начэпяць, ганаровую грамату дадуць, і ўсё гэта — нібыта за ўмелае кіраўніцтва. Ён камуністы. Яму і казыры ў рукі. На чужым розуме ў сацыялістычны рай едзе».

Крыўда й злосьць гнялі пахмурыя думкі, неспакойна разьядалі нутро, і гарачы пратэст супраць непарадку, супрацьбальшавіцкае ўлады цішком вырываўся з словамі праклёну.

Няўзнак увайшла гаспадыня. Яна ўвайшла ў пакойчык, ня стукаючы ў дзьверы. Кватэрант Бутковіч жыў тут пяты год і да яго гаспадары дому прывыклі, як да свайго роднага. Зь ім гутарылі адкрыта. Гаспадыня часта жалілася на даўгія чароды ля крамы, на дарагоўлю прадуктаў, а ейны стары гнуў сваю палітыку.

— Вы, таварыш інжынер, — сьмяяўся ён, — будуеце дом Саветаў. Ня дом, а даманіну трэба.

Гэты сьмелы дасьціпны жарт падабаўся Бутковічу, і ён разам з гаспадаром сьмяяўся.

— Прыдзе час, — адказваў ён, — шукаем гэбліка. Няма чым дошкі габляваць.

Любілі гаспадары Бутковіча. Ён быў свой чалавек. Спакойны й самотны. Сяброў ня меў, штовечар сядзеў дома. Часта гаспадары запрашалі яго на вячэру. За сямейным сталом вялася гутарка на міжнародныя тэмы. Бутковіч падаваў навіны з газэт і абнадзейваў: «Хутка будзе зьмена. Пабачыце. Гэтак доўга трываць ня можа».

Вось і цяпер — увайшла гаспадыня і ласкава да Бутковіча:

— Дзядзька Бутковіч, на нашу куцьцю. Сяньня-ж вечар сьвяты, а вы за працай, пэўна-ж, і забыліся аб гэтым. Дык заходзьце да нас. Калі ласка...

На такія запросіны нельга адмовіцца і дзядзька Бутковіч пайшоў усьлед за гаспадыняй.

У вялікім пакоі за сталом сядзелі сам гаспадар, дачка, зяць і ўнучак. У куце стаяла прыгожая, асыпаная сярэбранай шэранью ялінка.

— Гэта навагодняя, савецкая, — кажа стары з усьмешкай. — А вось цяпер яна дачакалася таго часу, калі ёй заправды прызначана стаяць — урачыста, праўдзіва, з палаючымі сьвечкамі. Ці праўду кажу? Га? — Гаспадар кінуў вясёлы пагляд на інжынера.

— Але, — згадзіўся Бутковіч. І тымчасам прыняў ад гаспадыні пачастунак — талерку з салодкай ячнай кашай.

— Гэта мая дачка куцьцю рабіла, — заўважыла не бяз гонару гаспадыня.

— Ды не, — запярэчыла маладая жанчына, — рабіла мама. Я толькі мёду «па блату» дастала.

Бутковіч еў куцьцю і хваліў абедзьвюх жанчын. Гаспадар наліваў у чаркі гарэлку. На стале стаяла посная страва: салёныя гуркі, квашаная капуста, вінігрэт і бульбяная зупа з грыбамі.

— Шкада-от селядцоў няма, — уздыхнуў гаспадар, — нідзе іх ня ўбачыш, ня купіш. Ня тое, што даўней. Блага цяпер. Але ўсё-ж і пры гэтых умовах можа быць сьвята. Пры хаценьні, пэўна. Ці ня так? Тут у нас на прадмесьці, як на хутары, свабадней крыху. Ніводзін чужы ня швэндаецца. Ганна, запалі сьвечкі.

Стары падміргнуў вокам жонцы і сам борзда выбег у калідор. На гары пачуўся грукат скрыні, зарыпела столь. За хвіліну гаспадар вярнуўся. У ягоных

**(Заканчэньне на 5-й бачыне)**

**Власт (Вацлаў Ластоўскі)** 2)

# Прыгоды Панаса і Тараса

### XI. МАЗУРЭ ЕДУЦЬ У БЕРАСЬЦЕ НА КІРМАШ

Едуць яны, едуць, міжсобку жартуюць і сьмяюцца, аб тым, што бачылі гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — трухаюць.

Празь лясэ, поле праяжджаюць, з узгорка на ўзгорак перавальваюцца. На выганах начлягуюць, сваіх конікаў папасваюць.

— Тарас, а Тарас!

— Што, куме Панас?

— Вось колькі часу мы ўжо едзем, колькі ўсяго ўжо нагледзіліся, а дагэтуль яшчэ не пераканаліся ў блуклівасьці мазуроў.

— Я і сам ужо аб гэтым думаю. Панас.

І толькі сказаў гэта Тарас, як узяў зараз-жа завярнуў коні назад, быццам раптам здумаў да хаты варочацца. Але спыніў коні і далей ня едзе.

А было гэта ўжо на захадзе сонца.

— Што ты замануў, Тарас? Няўжо да хаты здумаў варочацца?

— Пачакай, Панас! Будзеш зашмат ведаць. — хутка старым станешся.

Стаяць сярод дарогі, азіраюцца.

Бачаць, — зь лесу выяжджае цэлы абоз мазуроў.

Пад'ехалі мазурэ да нашых падарожных і пытаюцца:

— Куды едзеце, людцэ?

— У Берасьце! — адказвае Тарас. — а вас куды Бог нясе?

— Таксама ў Берасьце. А ці ня ведаеце, колькі вярстоў засталася яшчэ ехаць?

— А вярстоў дваццаць можа будзе. А ці здалёк, людзі добрыя?

— О, здалёк: вось з-за гэтага лесу! А вы адкуль?

— Мы якраз з таго месца, дзе сонца заходзіць.

— Дык, знацца, вы — блізкія суседзі, бо ў нас сонейка заходзіць вось за гэтым прыгорачкам! Ну, а чаго-ж вы стаіце, чаму ня едзеце?

— Мы вось думаем, — кажа Тарас, што ня варта нанач у горад ехаць: і каней няма дзе папасьціць, і за начлег трэба плаціць. А тут вось добры выган, травы колькі хочаш, і лес блізка, — давайце разам заначуем тут: у грамадзе весялей будзе. А заўтра разам паедзем.

— Праўду кажаш, чалавеча! — згадзіліся мазурэ.

Зьехалі на выган, распрэглі коні і пусьцілі іх на пашу. Самі нанасілі дроў, разьнецілі вогнішча, павячэралі кажны із свае торбачкі, пагутарылі і леглі спаць.

Мазурэ зараз-жа і захраплі, як пшаніцу прадаўшы, хоць пшаніца яшчэ была ў мяшкох на вазох.

Ня сьпяць толькі Панас і Тарас: аднаго карціць выканаць сваю думку, а другога надта цікавіць гэты сакрэт.

А мазурэ храпуць, аж захлёнаюцца і, пэўна ужо па трэйцім сьне трызьняць.

Вось Тарас раптам ускапіўся.

— Ну, пойдзем, Панас!

— Куды?

— Во. — ідзі. калі кажу!

Падыйшлі да вазоў.

— Варочай усе вазэ аглоблямі назад!

Паперакручвалі ўсе вазы назад і пайшлі спаць.

Назаўтрае, яшчэ да ўсходу сонца, усе схапіліся, палавілі коні. запрэглі і паехалі.

Едуць сабе. едуць, з мазурамі гутараць, аба ўсім распытваюць. Пад'яжджаюць да вёскі.

— Што, мо гэта ўжо Берасьце? — пытаюцца мазурэ ў нашых падарожных.

— Але, Берасьце, — кажа Тарас, а самога аж разрывае ад стрымванага сьмеху.

Але-ж — зусім, як наша вёска! — узрадаваліся мазурэ.

— Глядзеце! паказвае адзін мазур, — вунь тая баба, што нясе воду, як дзьве кроплі вады падобная да мае Магды!

— Праўда! — кажуць мазурэ.

А Панас і Тарас аж жываты падцісьнулі паясамі, каб ня трэснуць ад стрымванага сьмеху.

Глядзеце, людцэ, дык тут і каровы зусім, як нашыя! — дзівяцца мазурэ, гледзячы на стада, што ішло з поля.

Уяжджаюць у вёску. Коні давай цягнуць вазэ кажны на свой панадворак!

Насустрэч кірмашнікаў павыбягалі з хатаў мазурыхі. Пытаюцца ў мужыкоў, чаму не прадалі пшаніцы.

А тыя стаяць, праціраюць вочы і толькі лыпаюць імі.

А некаторыя мужыке пачалі сварыцца з жанкамі. Адны кажуць, што прыехалі ў Берасьце, а жанке пераконваюць іх, — што дамоў.

А Панас із Тарасам падагналі конікаў дый паехалі сабе далей.

Ад'ехаліся за сяло, у волю нарагаталіся.

— А што, заўсёды слухай мяне, Панас! — кажа Тарас.

— Ну і мудры народ гэтыя мазурэ! Едзьма, браток, далей, бо кажуць людзі, што «чым далей у лес, тым больш дроў».

### XII. ЯК МАЗУРЭ БЭЛЬКУ РАСЬЦЯГВАЛІ

Едуць яны, едуць, міжсобку жартуюць, гутараць. Піпачкі сваё — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — трухаюць.

Уяжджаюць ізноў у вёску.

Бачаць, — будуюць мазурэ новую хату.

— О, гэта цікава паглядзець! — кажа Панас.

Пад'ехалі блізка, прыстоялі, «памажы Божа» сказалі.

А мазурэ якраз у гэты самы час, пабраўшыся па чалавек дзесяць за вяроўкі, прывязаныя за адзін і другі канец да падрыхтаванай і ўжо як мае быць абчэсанай бэлькі, цягнуць адны да сябе, а другія да сябе, аж вочы на лоб ў іх выпірае.

Што робіце, людзі добрыя? — пытаецца Тарас.

— А ці-ж ня бачыце? — бэльку хочам расьцягнуць! Кароткая бачыце, папалася дзеравіна, а ў нас даўжэйшае няма!

Глядзяць Панас з Тарасам, чакаюць, пакуль мазурэ бэльку расьцягнуць.

Яны пацягнуць, пацягнуць, завалакуць на зруб, прымераюць. — кароткая!

Давай зноў цягнуць!

Урэшце змарыліся мазурэ, запацелі, быццам з вады вылезьлі і бачаць ужо, што не дадуць рады, — ня зробяць бэлькі даўжэйшай. Паселі і сумуюць.

# Калядныя думкі

Колькі з нас, раськіданых па цэлым сьвеце, з надыходам Каляд пахіляе ў задуме галаву ды разважае над мінулым, сяньняшнім, будучым...

Як доўга знаходжуся ў Канадзе, калядная пара заўсёды прыносіць мне тыя самыя вобразы, настроі, думкі, параўнаньні. Прычынаю ёсьць мясцовая калядная атмасфэра, характар іх сьвяткаваньня. Фактычна, сьвяткаваньне Каляд адбываецца тут перад днём нараджэньня Хрыста. Нядзель за шэсьць, а то й раней, перад калядным днём мясцовы гандаль, вялікія й меншыя крамы, поўнай параю пушчаюць у рух гандлёвыя рэклямы. Накруціш радыё — палова часу радзяць табе, што й дзе найлепш купляць; зірнеш у газэту — Дзед Мароз, званы тут Санта Кло, падказвае табе, які найлепшы для цябе тэлевізыйны апарат, якія маеш курыць цыгарэты; ён едзе аўтам, набірае тую а ня іншую бэнзыну, п'е ліманаду і г. д. Спачуваю гэтаму Санта Кло. Старога ў апошнім часе прабуюць запрагаць ужо для рэклямы і на тэлевізійных праграмах. Нагул зьдзекуюцца над ім колькі могуць — вялікія й малыя крамнікі, чэсныя прадаўцы і круцялі-спэкулянты. А апошніх тут хоць адбаўляй. Крамы даюць на крэдыт. Заплоціш пасьля, ясна, з грубым працэнтам. Аблічана, што за апошні год Амэрыканцы залезьлі ў крэдыт на звыш пяць міліярдаў даляраў. Мясцовая перадкалядная шуміха прыпамінае мне вялікі кірмаш павятовага мястэчка на Беларусі. Гудзела паветра ад вэрхалу, цягнулі цябе за рукаво, ахвяроўвалі на крэдыт па зьніжках.

Санта Кло ёсьць тут ня толькі разношчыкам дзіцячых падарункаў, ён стаўся галоўным сымбалем калядная пары, увасабленьнем крыклівага нажыўства праз гандаль. На самы задні плян адпіхнуў і зацямніў рэлігійнае значэньне Калядаў.

Зірні на людзей. Каляды для іх зьяўляюцца найлепшай і асноўнай на працягу году нагодай, каб да бяспрытомнасьці выгульвацца, да адказу напіхаць жываты. І дзеля таго другім асноўным героем мясцовых Каляд, побач Санта Кло, зьяўляецца калядны індык.

Не даводзілася мне яшчэ ніразу чуць ані на працы, ані ў іншых мясцох, каб хто казаў, якую падчас Каляд наведае сьвятыню, колькі ахвяруе ёй дапамогі... Людзі занадта занятыя каляднымі картачкамі, падарункамі, лікёрнымі напіткамі, індыкамі, півам і ўсім чаго тваё цела жадае. Калядныя банкеты па хвабрыках і прадпрыемствах пачынаюцца за два тыдні перад Калядамі. Ці хто тут чуў аб калядным посьце? Гульні й выпіўкі на калядных банкетах набіраюць найбольшай сілы ў вапошнім тыдні перад Калядамі. Прапарцыянальна з гэтым растуць аўтамабільныя выпадкі. Усе паліцыйныя сілы мабілізуюцца на дарогі. Найбольш плённым часам аўтамабільных катастрофаў ёсьць калядны й навагодні сэзон. Гэткія забойствы даходзяць у гэтым часе да жахлівых памераў.

Калядныя сьвяткаваньні ў васноўным канчаюцца калядным днём. Гулякі рана на калядны дзень сьпяць з учарашняга перапою, у сьвятыні йдуць старыя. Колькасьць іх малая ды меншае з кожным годам.

Які сумны гэта вобраз, і якой пустой становіцца душа кінутага ў дабрабыт чалавека...

Ведамая амэрыканская журналістка й пісьменьніца Дарота Томсон, што нядаўна вярнулася з падарожжа ў Маскву, на сваім дакладзе на торонтонцкім унівэрсытэце аб крызысе Захаду вельмі трапна спасьцерагла, што заходні чалавек ня мае прыемнасьці ні з працы, ні зь існаваньня (быту), але із спажываньня. Ягоная вечная ненасытная асьпірацыя — гэта спажываць больш і больш. Гэткім чынам, радасьць і пацеха замяняюцца прымітыўнай прыемнасьцю спажываньня, і чалавек стаецца маральным і мэнтальным нулём.

Трэба бачыць тутэйшы сьвет падчас калядная пары, каб прыйсьці да такога-ж выснаву...

✳

І паўстае ў маім уяўленьні другі вобраз... З бацькаўшчыны... Першыя сьнягі, даўгі калядны пост. Кароткія сьнежаньскія дні і даўгія зімовыя ночы. Сядзе за прасьніцу спрацаваная беларуская жанчына-гаспадыня-маці. Прытуліць збоку малога сына ці дачушку, і зацягне пад грукат калаўроту:

Ідуць, бягуць калядачкі,<br>
Каляда,<br>
Нясуць, вязуць каўбасачкі,<br>
Каляда...

Падабаецца хлопчыку прыгожая народная песьня. Ён уважліва прыслухоўваецца.

— Мама, — пытаецца, — а калі будуць Каляды?

— Скора, сынок, скора.

— Мама, — прадаўжае малы, — а чаму сьвяткуем Каляды?

— Таму што ў той дзень Божанька нарадзіўся, сынок.

Хлопчык узрушана пазірае на іконы на покуце...

Куцьця — найбольш урачыстая. Засьцілаецца сенам і пакрываецца чыстым белым абрусом вялікі стол. На стале ўсё поснае. Пасярод вялікая сьвечка. Навокал садзіцца цэлая сямейка. Пакідаецца месца для няпрысутных. Супольная малітва і ціхае спажыцьцё куцьці. Толькі пасьля куцьці дзеткі клічуць Дзеда Мароза, каб ішоў куцьцю есьці. Рэшткі недаедзенай куцьці выносяцца хатняй жывёле: адзнака любові да жывёлы, бо-ж Збавіцель між жывёлы ў хляве нарадзіўся.

Назаўтра царкоўныя званы заклікалі вернікаў зблізка й здалёк. Ішлі малыя й старыя. Каб славіць Нованароджанага, дзякаваць за пражытае, прасіць дапамогі на будучыню... І славілі Збавіцеля гулкія песьні калядоўшчыкаў. Звонкім рэхам адбіваліся яны каля саламяных вясковых стрэхаў:

Слава, слава, слава на вышынях Богу...

Зьзялі весела ў школьнай залі сьвечкі калядная ялінкі. Прыходзіў Дзед Мароз. Звонкія й прыгожыя песьні — калядкі, калядная батлейка, танцы дзетак каля ёлкі... Колькі пацехі й радасьці ў простым, урачыстым, рэлігійным сьвяткаваньні! І мімавольна ўзносілася на паднябёсныя вышыні душа, цёплаю любоўю да ласкавага Збавіцеля напаўнялася па берагі сэрца. І верылася ў перамогу сьвятла над цемраю, праўды над маной і насільствам.

Так хочацца верыць і сяньня...

**М. К-р**

## Гасьцінная куцьця

**(Заканчэньне з 4-ай бачыны)**

руках была тэчка з грамафоннымі пліткамі.

— Гэта заграмічны падарунак. З часоў НЭП-у перахоўваю. У Бэрліне насьпяваная, — паясьніў ён Бутковічу і зьвярнуўся да ўсіх:

— Мае даражэнькія, цяпер вы пачуеце калядныя песьні. Напачатку пастаўлю царкоўную: «Ражаство Твае, Хрысьце Божа наш».

Гаспадар памалу, наўмысьне не сьпяшаючыся, круціў ручку патэфону. У пакоі было ціха й паўзмрочна. Электрычнае сьвятло пагасілі. І толькі калядная дрэўца зігцела агнямі сьвечак. Разьбягаліся дрыгатлівыя цені. Сьвятло перамагала змрок.

Хрыстос нарадзіўся...

Веяла асаблівай цяплынёй. У Бутковіча на вачох сьлёзы ад прачуласьці. Ён слухаў з патэфону ўрачысты царкоўны сьпеў, замілавана глядзеў на вясёлую ялінку, на гасьцінную куцьцю, якая паважна стаяла на стале ў вялізнай місе, і міжволі ўспомніў пару свайго дзяцінства, бацькаву хату, сельскі калядны вечар. І цяпер ізноў у вабуджаным сэрцы нарадзіўся Хрыстос.

**К. Рамановіч**

# Забаронена любіць Беларусь

**(На дзень нараджэньня Канстанцыі Буйлы, 30. XII. 1898)**

У гісторыю беларускае літаратуры Канстанцыя Буйла ўваходзіць ня толькі сваім творствам, але й трагічнай доляй, што спаткала (падарозе з Масквы) паэтку на ейным творчым шляху.

К. Буйла — адна зь нешматлікіх пісьменьніц-жанчын у нашай літаратуры. З усіх іх, сваёй творчай натурай, яна бадай — найбольш «кволая». Муза ейная, прыкладам, моцна розьнілася ад рэвалюцыйна настроенага пяра ейнае літаратурнае сусястры й сучасьніцы Алёізы Цёткі. Буйла, калі яна навет пяяла аб «ланцугох», сьведамая канечнае патрэбы іхнага «парваньня», дык і то рабіла гэта на сваеасаблівы малянхалічны склад:

О, не кажы ты мне, што жыцьце надаела,<br>
І што на сьвеце жыць ня хочаш болей ты,<br>
Бо ўжо ад мук жыцьця душа твая збалела,<br>
А ў сьвеце столькі ёсьць гразі і цемнаты!<br>
О, не кажы, што ты ў жыцьці ня маеш мэты,<br>
І што яе ніхто ў жыцьці сваім ня меў;<br>
Павінна мэтай быць усіх — шырыць прасьвету,<br>
Усіх, хто цьму жыцьця убачыць ўжо пасьпеў!<br>
Нам сьветачамі быць! У цемнаце ніводнай<br>
Ня бачна зорачкі?... Мы будзем распаляць!<br>
Да працы час, браты! Ніхто няхай ня сьмее<br>
Магутную руку бясьсільна апускаць.<br>
Да працы час, браты! Мы туманы разьвеем:<br>
Бо, як ў пялёнках, ў іх наш сумны край ляжыць;<br>
Каханьнем маладым мы дух яго сагрэем, —<br>
Нізіны кіне ён і вышай узьляціць...

Баёвы і тон і рытм Буйле ня свомыя. Яшчэ нашаніўскі літаратурны крытык Ант. Навіна, як характэрную адзнаку ейнага творства, адцеміў «эратычную інтуіцыю». І. Дварчанін у сваёй «Хрэстаматыі» (1927 г.) пісаў пра К. Буйлу: «Асабістыя разважаньні ў яе стаяць на першым пляне. І тут Буйла вельмі арыгінальная. На першым месцы ў яе эротыка, песьні каханьня. У гэтым кірунку Буйла ледзь не адзіная прадстаўніца ў нашаніўскай пары». Максім Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» (у 1921 г.) акрэсьліў К. Буйлу, як «надта здольную пясьнярку, ад якое беларуская паэзія шмат чаго спадзяецца...».



**Дзёньнік „Toronto Daily Star“ за 12. 12. 1955 г. зьмясьціў справаздачу зь Міжнацыянальнага канцэрту ў Торонто і, спасярод трох фотоздымкаў, два фотоздымкі беларускіх выканальнікаў. Рэпрадукцыю аднаго зь іх: «Марыя Мірон зь Беларусі іграе на мандаліне» вышэй зьмяшчаем.**

**(Рэпартаж гл. на 8-ай бачыне)**

І запраўды, спадзявацца ад Буйлы можна было шмат чаго арыгінальнага. Пісаць пачала яна рана. Зьвязаўшыся з адраджэнскім рухам, яна адразу сталася вельмі актыўнай супрацоўніцай «Нашай Нівы». У 1914 годзе, маючы 16 год, яна выдае ўжо зборнік вершаў (пад рэдакцыяй Я. Купалы) «Курганная кветка». У 1915 годзе (відаць, у сувязі з вайной,) пабраная ўжо зь нейкім В. Калечыцам, Буйла апыняецца ў Маскве, дзе жыве й да нашых дзён.

Паэтычны талент Канстанцыі Буйлы — ейны жаночы лірызм, нахіл да эратычнае тэматыкі, пэўная замкнёнасьць у сабе — ужо ў сваёй натуры быў зьявішчам антаганістычным у дачыненьні да крыклівае пустэчы й хвальшывага патосу бальшавіцкае літаратуры, названае Сталінам у 1932 годзе літаратурай сацыялістычнага рэалізму. Да гэтага ў Буйлы даходзіў яшчэ адзін вызначальны мамэнт ейнага творства — гэта шчырае каханьне й глыбокая прывязанасьць да ўсяго свайго роднага. Нездарма й ейны найлепшы верш, што даўно стаўся народнай песьняй, завецца: «Люблю я край, старонку гэту, дзе я радзілася, расла...».

Цяжка было прыстасоўвацца да «сацыялістычнае эпохі» з гэткімі дадзенымі. Беларусам лепш маўчаць, чым любіць сваё. І паэтка маўчала. Дапамагаў ёй пры гэтым факт, што яна ў Маскве, загубленая ў чужым моры, далёка ад цэнзурнага цкаваньня беларускіх пісьменьнікаў, якое дасягнула свайго кульмінацыйнага пункту пасьля пераналу

**(Заканчэньне на 6-ай бачыне)**

## Арыштаваны „пан Тадэўш“

У №47—48 «Бацькаўшчыны» з 27 лістапада 1955 г. была пададзеная вестка аб першым перакладзе двух песьняў «Пана Тадэўша» В. Дунінам-Марцінкевічам на беларускую мову.

Хочацца тут прыпомніць, што пераклад твору Міцкевіча «Пан Тадэўш» на гэтым ня спыніўся. Гэтак, у віленскай беларускай прэсе ў [illegible] годзе была пададзеная зацемка з наступным загалоўкам: «„Пан Тадэўш“ арыштаваны»; у зацемцы падавалася да ведама, што ў часе свайго пабыту ў віленскай вязьніцы на Лукішках у 1927—30 г. г. былы пасол на сойм Браніслаў Тарашкевіч пераклаў на беларускую мову «Пана Тадэўша». Пераклад быў аддадзены на цэнзуру да пракурора, які яго сканфіскаваў.

Гэты факт выразна сьветчыць аб тым тупым шавінізьме, які праяўляў тагачасны польскі ўрад у адносінах да ўсіх праяваў беларускасьці.

**Незалежнік**

— А вось мы удвох якбач вам гэтую бэльку падоўжым!

— Ну! Хіба жартуеце? Нас вось дваццаць чалавек не далі гэтаму рады, а вы ўжо нешта зробіце?

Панас і Тарас, нічога не адказаўшы, зараз распрануліся, зьмерылі папярэчную сьцяну зруба, знайшлі патрэбнай даўжыні ашвалачак дзяравіны, абчасалі, прыладзілі да бэлькі, зьбілі дубовымі цьвякамі, удвох зацягнулі, улажылі і пытаюцца ў мазуроў:

— Ну што, далі рады?

Дзівяцца мазурэ і не надзякуюцца.

— Скуль вы, людзі добрыя? — пытаюцца.

— А мы адтуль, адкуль хмары на неба падымаюцца!

— Э! Дык вы нат блізкія суседзі, бо ў нас хмары заўсёды з-за гэтага лесу выходзяць, а туды толькі вярстоў з два будзе!

Запрасілі мазурэ добрых людзей, «блізкіх суседзяў» у хату, паставілі за працу і добрую раду барышу, частуюць, кормяць аб сваім жыцьці расказваюць.

П'юць, ядуць Панас із Тарасам, як добрыя госьці, з мазурамі гутараць, жартуюць. Не заўважылі, як сутунела.

Пакідаюць іх мазурэ нанач.

Паслалі Панасу на адной лаве, Тарасу — на другой. Ляглі падарожныя і сьпяць.

### XIII. МАЗУРЭ СЬЛЯПЫМІ РОДЗЯЦЦА

Прачынаецца Тарас уначы, аж чуе — мазурыха дзіця нарадзіла.

— Во шчасьціць нам! — думае, — і на баль папалі, і даведаемся, якімі мазурэ родзяцца.

Нараньні Тарас, нічога ня кажучы Панасу, жыў не гарыць, хутчэй угледзець нованароджанага мазура. А папрасіць, каб паказалі, не адважыцца, бо гэта ня згодна із звычаем.

Урэшце, дачакаўся ткі Тарас, як усе выйшлі з хаты, а парадзіха заснула, адвярнуўшыся да сьцяны.

Падцікаўся гэта ён да ложка, адкрыў дзіця, зірнуў на яго ды кліча хутчэй Панаса.

Падбег Панас, глядзяць абодвы. — у дзіцяці запраўды вочы заплюшчаныя і, быццам вечкі зросшыся.

Дзіця раптам заплакала.

— Глядзі, нат слёзы не цякуць! — кажа Тарас, — і вочкі ўсё заплюшчаныя!

У сенях нехта стукнуў, — і Панас із Тарасам хутка адскочылі ад дзіцяці і, як ня лысыя, сядзяць на лаве і монтаюцца каля капшукоў, быццам курыць рыхтуюцца.

— А што? Ткі праўду людзі кажуць, — гаворыць Тарас, выехаўшы з панадворку.

— Аб чым? пытаецца Панас.

— Ну, а пра тое, што мазурэ сьляпымі родзяцца!

### XIV. ЯК МАЗУРЭ ТАЛАКНО Ў РАЦЭ РАБІЛІ

Едуць яны далей, міжсобку гутараць, сьмяюцца. Пінпачкі свае — пык!-пык!-пык! — папыкваюць. Конікі іхныя — трух!-трух!-трух! — патрухваюць. І ім нішто сабе пасьля мазуроўскага аўса.

Пад'яжджаюць нашыя падарожнікі да ракі: конікі піць захацелі.

Разнуздалі. Пояць.

Бачаць, аж да іх пад'яжджае абоз мазуроў, таксама коні паіць.

Напаілі мазурэ коні і згаворваюцца міжсобку талакно рабіць.

— Цікава паглядзець, — кажа Панас, — як мазурэ талакно робяць. Заложым тут папаску і пасочым.

— Праўду кажаш, Панас!

Падкінулі конікам сена, самі дасталі з воза сваю лусту, селі, сілкуюцца і да работы мазуроўскае прыглядаюцца.

Бачаць, — зьнялі мазурэ з воза мяшок мукі і нясуць да ракі.

Зацікавіліся Панас із Тарасам: што далей будзе?

Потым пракапалі мазурэ ў беразе заваню, напусьцілі ў яе вады і насыпалі солі. Памяшалі воду, пакаштавалі, — ня солана! Яшчэ сыпаюць соль, — ня солана. Цэлы мяшок солі ў заваню ўвярнулі і ніяк вады не пасалілі. «Што за ліха?» дзівяцца мазурэ.

Але, як солі ўжо больш ня было, дык пастанавілі і зь недасолам пагадзіцца.

Сыплюць муку. Мяшаюць, — усё рэдкае талакно!

А мука, ведама, з вадой зьбягае.

Цэлы мяшок мукі ў заваню ўгацілі, а талакно ніяк не загусае. Што за ліха? Разважылі мазурэ, што мука на дно сьселася. А як яе разьмяшаць?

Зараз паклікалі мазурэ хлапчука, прывязалі яму да шыі камень, а да паяса — вяроўку і кажуць: «Лезь у заваню талакно мяшаць!»

Хлапчук быў невялічкі, — і, як чабоўхнуў у заваню, дык і схаваўся з галавою.

Клічуць мазурэ хлапчука, — не адгукаецца.

— Во, бэстыя! — кажуць мазурэ, — дапаў да талакна і нам нічога не пакіне! Пусьці казла ў гарод!...

Шкада Панасу і Тарасу хлапчука, але яны і самі ня пэўныя, што ён утапіўся. Хто яго ведае? А мо мазурэ і запраўды пад водою могуць дыхаць?

І страх іх бярэ, і пераканацца хочацца. Глядзяць, што будзе далей.

Паклікалі яшчэ раз мазурэ хлапчука, — не аказваецца.

— Абжорся пэўна талакна, ды вылезьці ня можа, — пастанавілі яны.

Пацягнулі за вяроўку — выцягнулі хлапца.

— Бач, як нажорся, аж распух! Ну, няхай пасьпіць тут на беразе, — кажуць мазурэ.

Клічуць яны другога хлапца, прывязваюць да шыі камень, за паяс вяроўку, загадваюць ня есьці ўсяго талакна і спушчаюць у заваню.

Ня сьцерпелі тут Панас із Тарасам! Пераканаліся, што і мазурэ пад вадою жыць ня могуць.

— Пачакайце, людцэ! Што вы робіце? — крычыць на іх Тарас.

— Талакно мяшаем! — адказваюць мазурэ.

— Дык чаму-ж вы ў дзяжы, ці ў якім другім начыньні талакна ня робіце?

Мазурэ сказалі, што ніякага начыньня з сабою ня маюць, а надта хочуць есьці, бо даўно ў дарозе.

— Ну, дык мы вам пакажам, як можна без начыньня талакно зрабіць! — кажа Тарас.

Зараз распрануліся, закасалі рукавэ, папрасілі мукі і парожны мяшок. Зрабілі цеста, вымазалі ім добра зь сярэдзіны мяшок, насыпалі туды мукі, размяшалі, пасалілі і ў неўзабаўкі далілі для мазуроў дзеля лепшага смаку і маны большую палову талакна з свае дзежкі.

# Бэрлінская Баляда

**Сьв. Памяці М. Равенскаму**

5-га сьнежня Міколу Равенскаму было-б 69 гадоў. Але паняцьце «старасьць» зусім не падыходзіла да яго. Няўжо хтось назваў-бы Равенскага старым навет і ў вапошнія гады ягонага жыцьця? Заўсёды бадзёрым, энэргічным, поўным новых творчых плянаў застаўся ён у нашай памяці. Гэтай запраўды нявычарпальнай творчай сілы не змаглі зламаць ніякія абставіны.

Успамінаецца апошняя ваенная зіма. Лёс ізноў зьвёў мяне зь Міколам Равенскім, на гэты раз — у сьнежным, паміраючым, але ўпарта змагарным Бэрліне. У казармах Беларускага Батальёну на Ліхэнэрштрассэ, у вялікім пакоі, давялося мне нейкі час жыць зь ім разам. Было да нашае дыспазыцыі й старэнькае піяніна, ля якога мы забываліся аб усім на сьвеце.Часамі толькі грукат у дзьверы і пасьпешлівае напамінаньне дзяжурнага — «Спадар кампазытар, алярм!» — вярталі нас да сумнай рэчаіснасьці. Цяпер, калі ўспамінаеш тыя часы, яны здаюцца авеяныя нейкай сваеасаблівай рамантыкай. А магчыма й была запраўдная рамантыка ў гэтым непаўторным злучэньні ўсеразбуральнай стыхіі вайны з наджыцьцёва творчай сілай музыкі... Старадаўная лацінская пагаворка кажа, што, калі грыміць зброя, дык моўкнуць музы, але музу Міколы Равенскага не змаглі прымусіць маўчаць навет жахлівыя Бомбэнтэппіх-і («дываны бомбаў»), што сьціралі цэлыя дзялянкі з пляну Бэрліну. І ў гэтых, здавалася, зусім няспрыяльных натхненьню ўмовах, ён вёў інтэнсыўную творчую й практычную працу.

Якраз у гэты час Равенскі падрыхтоўваў да друку зборнік беларускіх песьняў, арганізоўваў музычныя ансамблі й працаваў зь імі. І якраз у гэты час кампазытар закончыў новы твор — «Баляду на беларускую тэму для йскрыпкі й фартэп'яну». Мне, як і кажнаму, хто яго чуў, вельмі падабаўся гэты твор — цёплая, лірычная мэлёдыя, сардэчнасьць і глыбіня пачуцьцяў гучэлі ў «Балядзе», і мы з Равенскім шмат разоў пераігрывалі яе.

У вадну із студзеньскіх нядзеляў (здаецца, гэта было Вадохрышча) курсанты Батальёну ладзілі сяброўскую вечарыну. Выступаў хор, дэкляматары, паасобныя сьпевакі; атмасфэра была вельмі цёплая й прыемная, і навет пара алярмаў, у часе якіх праграма перарывалася, а выканаўцы з слухачамі адседжваліся ў бомбасховішчах, не маглі абнізіць настрою. На гэтай вечарыне і хацеў Мікола Равенскі ўпяршыню выканаць сваю «Баляду». Ён дасканала падрыхтаваў яе, што патрабавала мноства высілку зь ягонага боку, бо «Баляда» тэхнічна была даволі складаная. Аднак зусім непрадугледжаны выпадак не дазволіў прагучэць гэтаму твору. Якраз у той момант, калі кампазытар ішоў із скрыпкаю да імправізаванай эстрады, скрыпка высьлізнулася зь ягоных рук, упала на падлогу, і пры гэтым так няўдала, што грыф зусім адпаў ад корпусу. Нажаль, дастаць іншую йскрыпку ў гэных умовах было немагчыма, і «Баляда» так і засталася нявыкананай..

Празь нейкі час Равенскі разам з рукапісам ужо падрыхтаванага зборніка беларускіх песьняў аддаў у друкарню й манускрыпт «Баляды». Але пажар у часе аднаго з бамбардаваньняў зьнішчыў разам з друкарняй і зборнік, і гэную нешчасьлівую «Баляду»...

Пазьней, колькі разоў Мікола Равенскі варочаўся да думкі адтварыць «Баляду» з памяці — чаго яна, бязумоўна, была вартая — але заўсёды нейкія іншыя творчыя пляны адсоўвалі яе з «парадку дня». Частка музыкі з «Баляды» была выкарыстаная Равенскім у ягонай «Фантазіі» для йскрыпкі, але жаданьне цалкам адтварыць яе не пакідала кампазытара, і навет у часе нашага апошняга спатканьня ў Лювэне ён гаварыў аб гэтым. Але на гэты раз умяшалася бязьлітасная сьмерць. Бэрлінская «Баляда» Равенскага адгучэла разам зь ягоным жыцьцём...

**Алесь Карповіч**

# Забаронена любіць Беларусь

**(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)**

праз 20-я гады, выліўшыся ў масавае фізычнае вынішчэньне. Не вядома, ці ўцалела-б і Буйла ў гэтым сьмяротным віхры, калі-б яна засталася жыць у Менску...

Буйла прамаўчала творча каля 30 год. Бадай паўжыцьця часу бязь сьвежага паветра не забіла аднак творчага духу паэткі. Гэта была замарожаная крыніца, толькі зьверху пакрытая лёдам маўчаньня. У часе Другое сусьветнае вайны і неўзабаве пасьля яе на лёдзе гэтым зьявіліся былі творчыя палонкі. Небясьпека, у якую трапіў рэжым, дазволіла йзноў паэтцы паўтарыць перарваны лейтматыў свайго творства — «люблю я край, старонку гэту...». Буйла засталася нязьменнай — паэзіяй ёй была прыгажосьць баларускае прыроды й самое Беларусі. Далёкая бацькаўшчына сталася йзноў ёй натхненьнем:

> Зямля мая далёкая,
> Зямля мая цудоўная,
> Радзіма сінявокая,
> Якая-ж табе роўная?
> Мо ёсьць і прыгажэйшыя, —
> Каму што ў сьвеце глянецца, —
> Мая-ж найдаражэйшаю
> Да сьмерці мне астанецца.

У 1950 годзе К. Буйла выдала свой другі зборнік вершаў «Сьвітаньне». Ня доўга аднак цешылася паэтка адноўленымі вобразамі роднага краю. У вачох Масквы — гэта праступства! У 1951 годзе расейска-бальшавіцкая цэнзура брутальна здушыла спробу Буйлы вярнуцца йзноў да творчага жыцьця (на гэтую тэму гл. артыкул д-ра Ст. Ст. у «Б-не» з 31. X. 51). Ад гэнага часу К. Буйла другі раз замоўкла. Сьціхлі й гутаркі аб ёй. Рэдка дзе можна сустрэць цяпер ейнае імя. Дарма яе будзем шукаць у савецкіх школьных падручніках зь беларускае літаратуры, па савецкіх літаратурных часапісах, газэтах... Сёлета, як якая насьмешка над ейным цэлым жыцьцём, зьявіўся ў № 25 «Піянера Беларусі» ейны прымітыўны вершык (крытыкам, відаць, на адчапнога, каб ня зьвягалі) «Комуніст», дзе паэтка радзіць пазнаваць камуністаў па «крылатых думках» ды па «чыстым сэрцы»... Ці-ж ня гіронія лёсу?!..

Канстанцыя Буйла — гэта жывы прыклад, як марна гінуць зыркія беларускія таленты ў змрочным царстве расейска-бальшавіцкае шавіністычнае рэакцыі.

**С. Ясень**

# Добрасуседзтва

**Н**а шляху Навагрудак-Любча кажны праяжджаў цераз Клюкавічы, а крыху ў баку заставалася мястэчка Далятычы. У нядзелі, а асабліва ў фэставыя сьвяты, ладзіліся па нашых вёсках напераменну забавы-вечарынкі. Моладзь, а часта й старэйшыя, езьдзілі пры такіх нагодах пагуляць адны да адных ці пагасьціць у сваякоў або ў знаёмых. Дагаворваліся хлопцы, чыім канём паедуцьды, сабраўшыся на адну ці больш фурманак, ужо зранeнька выбіраліся ў дарогу, каб хапіла часу пагуляць і выпіць ды сваечасова вярнуцца дамоў. Прыемна праводзіўся час, і ўспаміны аб гэтых шчасьлівых часінах ніколі не пакідаюць нас. Пры гэткіх нагодах моладзь часта знаёмілася міжсобку і часта, пасьля такіх суседзкіх гасьцінаў, хлапец ехаў у сваты да нагледжанай дзяўчыны, а там — глядзі і вясельле ды зноў гуляньне.

Страціўшы родныя й арыгінальныя Клюкавічы ці Далятычы, моладзь наша патрапіла ў «новай бацькаўшчыне» зарганізавацца ў паасобныя «пасёлкі» ды аднавіць старыя добрыя традыцыі. Такім чынам, Дэтройт мы назвалі Далятычамі, а Кліўлэнд -Клюкавічамі, і жывем тут у добрым суседзтве. Вось нядаўна «Далятычы» атрымалі запросіны ад «Клюкавіч» прыехаць на гуляньне 12 лістапада. Яшчэ раненька ў сыботу падмазваем калёсы «Форда» ці «Пакарда» і, сабраўшы раськіданых па вялікім «сяле» кандыдатаў на забаву, вырушаем у дарогу зь вясёлым настроем ды вылікай дозай энтузіязму. Дарога, праўда, крыху розьніцца ад нашых старых шляхоў на Бацькаўшчыне — як якасьцяй, так і адлегласьцяй. Ад цяперашніх Далятычаў да Новых Клюкавічаў амаль 300 кілямэтраў. Праўда, і коні крыху мацнейшыя, дык думаем увабраць гэтую дарогу за чатыры гадзіны. Зусім, як дома бывала...

Ня хутка забудземся аб так прыемна праведзеным часе сярод сваіх блізкіх і гасьцінных суродзічаў у Кліўлэндзе. Уваходзячы там у вялікую прыгожую залю, спаткалі нас мільмі ўсьмешкамі й сяброўскімі прывітаньнямі: «Здаровы далятыццы! Вітаем, вітаем! Чуйцеся, як у сябе дома ды ня траццe часу!..» Адразу ствараецца вясёлы да забавы настрой. Душа цешыцца гледзячы, як шмат сабралася свае моладзі з розных канцоў Беларусі: пінскія, слонімскія, віцебскія, мянчукі, наваградчане... Удалыя музыкі пачынаюць у тэмпе танга «Расьцьвіталі ў жыце васілёчкі». Паплыллі знаёмыя гукі. Душа пішчыць і ног ня стрымаць. Далей — заліхвацкая полька, а там — нейкі стары знаёмы вальс... Пілнуйся толькі, каб упору захапіць дзяўчыну, бо на іх тут скупа. Чуць зазяваў, дык і будзеш семячкі лушчыць. Аднак падумалі тут і аб «зяваках». Поруч з танцавальнай заляй — добра ўладжаны буфэт. Гаспадарлівыя й дбалыя «клюкавіццы», падвязаўшы белыя хвартухі, увіхаюцца каля сваіх суседзяў. З аднаго й з другога боку чуеш толькі: «Здароў! Як жывем? Ну, мо на шкляначку піва?..» Спатыкаем сяброў па зброі, якіх ужо больш за дзесяць гадоў ня бачылі дый надзеі ня мелі спатканца.

За сталом нехта зацягвае палескую песьню. Хутка вакол пачынальнікаў зьбіраецца грамада. Дружна падхопліваюць іншыя. Раптам, з другога канца — «Мы бойкая моладзь», а там — «У гушчарах», «Ідуць жаўнеры — Беларусы». Стары вэтэран падыходзіць да мяне і кажа: «Эх, душа рвецца, слухаючы, гэтых маладых. Здаецца, і сам яшчэ ўзяў-бы «качаргу» на плечы...»

Бяда толькі, што час гарыць, і сам ня ведаеш, куды кінуцца, бо з танцавальнае залі чуваць зноў гукі чароўнага танга «Васількі» Куліковіча, якое так любіць наша моладзь. Запраўды, можна было забыцца, што мінула ўжо блізу 15 год, калі ня больш, пасьля забаваў у сваіх Клюкавічах ці Далятычах. Зноў чуешся маладзейшым ды забываешся на мамэнт аб чужыне. Нажаль, усё прыемнае хутка прайходзіць. Пара разыходзіцца. Вялікая частка моладзі сьпявае ў царкоўным хоры; заўтра Багаслужба. Дэтройтаўцы аднак не забываюцца аб сваіх абавязках і памаленьку, але кансэквэнтна, здабываюць сымпатыі дзяўчатак-мастачак, каб загітаваць іх у Дэтройт выступіць 19 лістапада зь беларускай праграмай на міжнародным канцэрце ў Інтэрнацыянальным Інстытуце. Захады ня былі дарэмныя. Салістка Ірка Каляда й ейная сяброўка да дуэту, а таксама танцоркі «Лявоніхі», далі згоду. Сп. Кастусь К. згадзіўся даць сваю «падводу» і сваечасова прывезьці нам дарагіх артыстак.

У нядзелю, памаліўшыся ў сваёй царкве, выбіраемся назад у Дэтройт.

Шчырае дзякуй гасьцінным гаспадаром за прыемна праведзены час ды за запросіны на наступнае гуляньне на Новы Год.

**Язэп Гарадачанскі**

# Доля падсавецкіх народаў розная

Як мы ўжо паведамлялі ў адным з пап. нумароў, ніжэй зьмяшчаем выняткі з артыкулу Гарры Шварца (Ню Ёрк Таймс) аб становішчы нерасейскіх народаў.

«Супроцьлежныя сілы здаецца фармуюць лёс нерасейскіх мяншыняў, якія складаюць прыблізна палову савецкага насельніцтва.

«У шмат якіх мясцох мяшаныя жанімствы й прымусовае вывучаньне расейскае мовы накіраваны на тое, каб стварыць культурна й этнічна суцэльны народ. Але гэты працэс мае перад сабой далёкую дарогу. Тымчасам, патураньне ў разьвіцьці нацыянальных культураў ды нацыянальных моваў мяншыняў робіць іншыя групы больш сьведамыя свае гістарычнай апрычонасьці.

У сучасны мамэнт выглядае, што найбольш жорсткія формы русыфікацыі завешаны. Наадварот — атака вядзецца на расейскіх шавіністых, што было немагчымым у вапошнія гады пры Сталіне, які быў Грузінам.

З Украінцамі, найбольшай падсавецкай мяншыняй, сучасны рэжым, кіраваны расейцамі, — Мікітам Хрушчовам і Міколам Бугланінам — старанна фліртуе. Украінец Аляксей Кірычэнка быў выбраны ў прэзыдыюм ЦК КПСС у жніўні мінулага году — першы Украінец у прэзыдыюме ад часу чыстак трыццатых гадоў.

Відавочна, што вялікія сумы былі прызначаны, каб зрабіць зь Кіева, сталіцы Украіны, адно з найпрыгажэйшых местаў Савецкага Саюзу. Адмысловая ўвага прысьвечаная Кіеву найбольш кідаецца ў вочы, калі параўнаць яго зь Менскам, сталіцай Беларусі, дзе працэс будаўніцтва куды менш заавансаваны.

Выглядае, што абвінавачаньні ў спробах русыфікацыі, сьціраваны супраць Леаніда Мельнікава ў ліпені 1953 году, цяпер пакінуты. Мельнікаў зьяўляецца цяпер міністрам у кабінэце Булганіна.

Украінцы й Беларусы — гэта славянскія народы, гэтак як і Расейцы, і іхнія мовы зродненыя з расейскай. Наведаньне Менску, Кіева, Харкава й Адэсы пакідае ўражаньне, што русыфікацыя пайшла ў гэтых гарадох вельмі далёка. Шмат Расейцаў жыве ў гэтых гарадох, і ўрадовыя справы вядуцца ў расейскай, а не ў украінскай ці беларускай мовах.

Ніхто з прадстаўнікоў гэтых дзьвюх мяншыняў, зь якімі мне даводзілася гаварыць, не здаваўся браць вельмі паважна сяброўства Украіны й Беларусі ў Аб'еднаных Нацыях.

Наведаўшы Міністэрства Замежных Спраў Беларусі, я выявіў, што яно займае частку аднаго паверху ў малым доме. Мае намаганьні высьвятліць, якія функцыі гэтага Міністэрства акрамя спраў зьвязаных зь сяброўствам у Аб'еднаных Нацыях, прывялі толькі да сьцьверджаньня заступнікам Міністра Замежных Спраў Астапенкам, што Міністэрства гэта займаецца ўсімі справамі, „якія ўваходзяць у ягоную кампэтэнцыю"».

---

Добрае выйшла талакно! Ядуць мазурэ, хваляць, добрым людзям не надзякуюцца, а іхнага розуму не надзівяцца.

Паехалі Панас і Тарас далей.

### XV. МАЗУРЭ ПЛЫВУЦЬ ПРАЗ РЭЧКУ

Едуць яны, едуць, міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — папыкваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць...

Пад'яжджаюць яны да ракі. Бачаць — ні мосту, ні броду. Мост, як відаць, раней быў, але навальніцай зьнясло.

Што тут рабіць? Стаяць, сумуюць. Чакаюць, мо хто над'едзе, ці надыйдзе.

Аж на шчасьце, ідуць чатыры мазурэ. Добра, — будзе ў каго спытацца, дзе бліжэйшы мост.

Падыходзяць мазурэ да ракі. Бачаць, — аж ні мосту ні броду. А ім трэ' канечна на другі бок перайсьці.

Сумавалі, сумавалі, круціліся каля ракі, круціліся, — урэшце знайшлі на беразе дзеравіну.

Зараз двух мазуроў селі на тую дзеравіну, таварышэ прывязалі ім да гэтае дзеравіны ногі і папхнулі ад берагу.

Дзеравіна, якбач, круць! — і толькі ногі мазуроў тырчаць над вадой.

А таварышэ іхныя стаяць на беразе і сьмяюцца.

— Бачыш, — кажуць, — трасца іх галаве: яшчэ пераплысьці не пераплылі, а ўжо ганучы сушаць!

Скочылі Панас із Тарасам ратаваць людзей, але пабачылі, што ўжо не дадуць рады. Так і паплылі мазурэ з задой.

А таварышэ іхныя стаяць на беразе і ўсё галёкаюць, каб ім хутчэй дзеравіну падавалі. Але не дачакаліся і раззлаваўшыся пайшлі назад.

— Бач, трасца іх галаве! — кажуць, — во, павер ім другі раз!

А як спыталіся Тарас і Панас, ці далёка адтуль другі мост, мазурэ адказалі, што ня ведаюць.

Стаяць Панас і Тарас каля ракі і думаюць што далей рабіць.

— Ведаеш што, Тарас? Вярнемся ўжо да хаты! Пакуль даедзем, — якраз будзе пара касіць!

— Праўду кажаш, Панас, але сяньня ўжо позна, — давай паначлегуем тут!

Адпрэглі коні, пусьцілі іх на траву. А самі раздабылі дроў, расклалі вогнішча. Падпякуюць сабе на ражэнчыках сала, вячэраюць. Павячэраўшы, наадменку паспалі!

Назаўтрае разам з сонейкам у дарогу вырушылі.

### XVI. ЯК МАЗУР ХАТУ ПАДПАЛІЎ

Едуць яны, едуць міжсобку гутараць. Піпачкі — пык!-пык!-пык! — пакурваюць. Конікі — трух!-трух!-трух! — патрухваюць.

Праз знаёмыя лясэ, палеткі і вёскі праяжджаюць, з узгорка на ўзгорак уздымаюцца, із знаёмымі людзьмі сустракаюцца. Зь імі гутараць і расказваюць, дзе былі і што бачылі. За навуку мазурэ ім дзякуюць, да сябе з пашанай заклікаюць, частуюць, кормяць і з добрымі пажаданьнямі выпраўляюць.

Прыяжджаюць Панас із Тарасам у тую вёску, дзе яны навучылі цесьляў, як бэльку падоўжыць.

— Ну, няведама, скончылі мазурэ хату, ці не? — кажа Панас.

—Вось пабачым...

Пад'яжджаюць бліжэй. Бачаць, — аж мазур ходзіць вакол свае новае хаты з запаленым смаляком і ўсё ткае яго пад страху.

— Бач, нечысьць! — кажа мазур, — не пасьпеў гаспадар яшчэ і абагрэцца ў хаце, як ён ужо першы свае цянёты параспасьціраў... Зьгінь, прападзі, нячыстая сіла!

І перахрысьціўшы падстрэшша смаляком з агнём, мазур уваткнуў яго ў салому.

Ледзь пасьпелі Панас із Тарасам заліць страху, што аж жыганула.

А мазур, спалохаўшыся, што хата загарэлася, аслупянеў і толькі вачыма лыпае.

— Што гэта ты хацеў зрабіць найлепшае? — пытаецца у яго Тарас.

А я, — кажа, — хацеў абсмаліць толькі тыя ніці, што нячысьнік панаблытваў пад страхой, каб апутваць імі душы людзкія.

Ды гэта-ж — павуценьне! А калі ты яго ўжо так баішся, дык дай мятлу, — я пакажу як ад яго бараніцца.

Прынёс мазур мятлу. Тарас пазьнімаў ёю павуценьне. Мазурэ, якія зьбегліся на гэта, аж ратэ паразьзяўлялі.

— Да чаго, — ёсьць хітрыя людзі на сьвеце!...

Разьвіталіся Панас і Тарас з мазурамі і паехалі далей.

### XVII. СКУЛЬ УЗЯЛІСЯ МАЗУРЭ

Едуць сабе, едуць міжсобку сьмяюцца, гутараць, з розуму людзкога не надзівяцца.

Пад'яжджаюць пад карчму. А час быў ужо позны: пачало сутуняць.

— А ведаеш, Тарас? Паначуйма хоць раз у карчме: тут пэўна людзей сьвежых сустрэнем, па чарцы вып'ем, разгутарымся, ізноў чаго-колечы новага даведаемся.

— Праўду кажаш, Панас!...

Заехалі да Жыда ў стадолу, распрэглі коні, прывязалі, падкінулі ім сена, а самі пайшлі ў хату.

Падарожных у карчме было шмат. І ўсё адны мазурэ. Сярод іх знайшліся і знаёмыя Панасу і Тарасу.

Зараз прывіталіся, слова за слова — і разгутарыліся. А каб разьвязаць у мазуроў языке і здабыць прыяцельства, — Панас із Тарасам заказалі кварту гарэлкі. Нарэзалі сала. П'юць, ядуць, бясёду вядуць. Мазурэ з свайго боку пачалі гарэлку ставіць. Панас і Тарас прапануюць ім закусваць салам, а мазурэ адмаўляюцца.

— Мы не кацапы, кажуць, — сьвіную скуру есьці.

— Мы таксама не кацапы, але сала не зьмяняем на вашую масьлянку.

А мазурэ тымчасам якраз паставілі на стол бойку з масьлянкаю і ўсё абмакалі ў яе хлеб.

— Дык хто-ж вы, калі не кацапы? — пытаюцца мазурэ.

— Мы — паляшуке, бо жывём на Палесьсі. Але нам цікава, чаму вас мазурамі завуць, калі вы ў Польшчы жывяцё?

— Мазурэ — гэта ў нас мужыке, як і мы з вамі, а Палякамі называюць тых у нас, што працаваць адвучыліся.

— Цікаўныя рэчы мы ад вас чуем! А вы можа і ня ведаеце, скуль вы на сьвеце ўзяліся?

— Для цэго-з не вемы? Нас Бог ствозыл!

# Водгукі гадавіны Слуцкага Чыну

**(Заканчэньне, гл. №№ 50 і 51-52)**

## Чыкаго (ЗША)

4 сьнежня 1955 г. Аб'еднаны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў у Чыкаго ладзіў Акадэмію ў чэсьць Слуцкага Паўстаньня. У праграму ўрачыстасьці ўвайшлі: паніхіда за паўшых герояў, адслужаная а. Тарасэвічам, выступленьне хору пад кіраўніцтвам др. М. Мінкевіча, дэклямацыі сябровак Шпакоўскай, Мартыновіч і В. Махнач ды рэфэрат аб гераічным чыне Случчакоў др. Мінкевіча. Пасьля ўрачыстасьці адбылася шчырая сяброўская бяседа тутэйшых Беларусаў пры пачастунку, арганізаваным Жаночымі згуртаваньнямі. Уся ўрачыстасьць была ня толькі беларускай антыбальшавіцкай дэманстрацыяй, але злучэньнем усіх Беларусаў для справы далейшай нашай барацьбы за вызваленьне Беларусі.

## Сыднэй (Аўстралія)

27 лістапада 1955 г. сябры Беларускага Аб'еднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі ўрачыста адзначылі ўгодкі Слуцкага чыну. А гадзіне 11-й Яго Прэасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей адслужыў Паніхіду за душы паўшых Слуцкіх Змагароў. Пасьля Божае службы сп. Я. Гавенчык прачытаў рэфэрат, прысьвечаны Слуцкаму Паўстаньню. Праўда, заліўны дождж у гэты дзень перашкодзіў крыху адпаведнаму правядзеньню ўрачыстасьці.

Хочацца адцеміць тут, што тыдзень пазьней Слуцкія ўгодкі былі адзначаны і групай «зарубежнікаў». У іхнай праграме было й добрае, і благое. За добрае трэба пахваліць. Аднак тут-жа мусім сказаць, што арганізоўваць выпіўку й танцы з нагоды трагічнае сьмерці Случчакоў ды ў дзень перадкаляднага посту могуць толькі вельмі прымітыўныя арганізатары, каб прыцягнуць хоць гэткім спосабам патрэбную ім публіку.

**А. Лаўрыновіч**

### ПЭРТ (АЎСТРАЛІЯ)

У суботу 26 лістапада 1955 г. аддзел ЗБВ у Пэрт урачыста адзначыў Дзень Гэрояў. Акадэмію адкрыў старшыня аддзелу вэтэранаў сп. М. Раецкі, які ў сваёй прамове прадставіў ахвярнасьць і высокую людзкую годнасьць Слуцкіх паўстанцаў. Аднахвіліннай цішынёй прысутныя ўшанавалі памяць палеглых. Наступна др. А. Бразоўскі прачытаў рэфэрат аб Слуцкім Паўстаньні ды аб пазьнейшай барацьбе й ахвярнасьці беларускіх жаўнераў. Дакладчык заклікаў да працы й вытрываласьці, каб завяршыць вызвольнае змаганьне перамогай.

Акадэмію закончылі жалобным маршам.

**А. Мароз**

## Лёндан (Ангельшчына)

Дождж і сум на брытанскім абтоку. Ня дзіва, што ў нікога ня ўбачыш на твары ўсьмешкі. Нам цяжка больш, чым іншым. Сяньня, 11 сьнежня, ня гледзячы на ўсю непагадзь, зьбіраемся ля магілкі сьв. пам. Рыдлеўскага. Перад намі белы карарыйскі блёк мармару, на якім віднеецца эўфрасінеўскі крыж і напіс: «Інж. Лявон Рыдлеўскі. Нар. у Ульянавічах 2. 10. 1903. Пам. у Лёндане 24. 10. 1953. Жыў для Бога й Беларусі». Гэты помнік — гэта скромны дар Беларусаў з Францыі й Вялікабрытаніі таму, хто ўсё сваё жыцьцё пасьвяціў Беларусі. Айцец Аляксандар Крыт у прыгожых словах, пасьвячаючы помнік, успамінае нашага дарагога Лявона. Усе разам, каталікі й праваслаўныя, сабраліся ля магілкі ў Лёндане нашага суродзіча, каб за яго памаліцца, каб падзякаваць яму за ягоны ахвярны ўдзел у Слуцкім Паўстаньні, за ягонае сэрца, якое ён раздаваў не шкадуючы ўсім, за ягоную працу для БНР. «Жыў на сьвеце Лявон...» Як гэтая ўся песьня тарнуецца да нашага Лявона! Адыходзім з магілак зь пераканаьнем, што Лявоны ў нас не пазводзяцца...



**Помнік Сьв. Пам. інж. Лявону Рыдлеўскаму ў Лёндане**

Пасьля пасьвячэньня помніка зьбіраемся ў Беларускім Доме, дзе сп. Ф. Бартуль чытае даклад аб Слуцкім Паўстаньні. Пасьля нашыя песьні пераняасьлі нас яшчэ раз на Бацькаўшчыну. Маленькая мы крашынка яе, але пакуль мы жывем — жыве й яна!

**А. Дзедзінка**

### БІРМІНГАМ (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Дружына ЗБК у Бірмінгам дзень 35-х угодкаў гэройскага чыну Случчакоў адзначыла 27 лістапада. Паводля прыкладу папярэдніх гадоў, запрошаны сьвятар БАПЦ а. Аляксандар, зьвярнуўся да вернікаў з глыбокай патрыятычнай прапаведзяй, заклікаючы далей трымацца няўміручае ідэі, за якую змагаліся Случчакі. «Мы сабраліся, — гаварыў а. Аляксандар, — каб аддаць пашану тым, якія не памерлі духова, якія жывуць з намі, якія ў нас...»

Пасьля Паніхіды ўдзельнікі сабраліся ў прыгожую царкоўную залю, дзе старшыня дружыны ЗБК сп. Карніловіч адкрыў акадэмію. Сп. Баяроўскі прачытаў рэфэрат на тэму Слуцкіх падзеяў, а сп. Гатоўка прадэклямаваў некалькі патрыятычных вершаў. Сярод прысутных было колькі Беларусаў, якія першы раз мелі нагоду ўзяць удзел у падобнай акадэміі ды мець магчымасьць пазнаёміцца зь гістарычнымі фактамі змаганьня Случчакоў за незалежнасьць.

**Прысутны**

### МАНЧЭСТЭР (АНГЕЛЬШЧЫНА)

У нядзелю 4 сьнежня 1955 г. Беларусы Манчэстэру адзначылі 35-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня, якія ладзілі супольна Ўправа мясцовага аддзелу ЗБВБ з Управай мясцовай дружыны ЗБК. З гэтае нагоды ў Беларускім Доме сьвятар БАПЦарквы а. А. Крыт адправіў Паніхіду па загінутых героях-Случчаках. Пасьля гэтага ў сьвятліцы Б. Д. адбылася акадэмія, якую адкрыў старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ сп. Х. К-іч. Рэфэрат, прысьвечаны Слуцкаму Паўстаньню, прачытаў старшыня мясцовай дружыны ЗБК сп. М. Яськевіч. Акадэмія закончылася адыграньнем з плітак беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля акадэміі на зборцы пастанавілі наладзіць супольнае сьвяткаваньне праваслаўных Калядаў зь Дзедам Марозам і ёлкай для дзетак. Было таксама сабрана тры фунты сямнаццаць шылінгаў шэсьць пэнаў для беларускіх дзяцей у Нямеччыне, як маленькі калядны падарак.

**М. Стаўпіскі**

**НЕ ПАВІННА БЫЦЬ АНІВОДНАГА БЕЛАРУСА НА ЧУЖЫНЕ, ЯКІ-Б НЯ БЫЎ ПАДПІШЧЫКАМ, ЧЫТАЧОМ І ПАШЫРАЛЬНІКАМ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» І ЕЙНЫХ КНІЖНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ!**

# Беларуская школа ў Мэльбурне

13 лістапада 1955 году ў Мэльбурне была адчынена беларуская школа. Гэта вельмі пазытыўны факт у нашым эміграцыйна-грамадзкім жыцьці. Зразумела, ён выклікаў задаваленьне ў шматлікіх Беларусаў у Мэльбурне і напэўна добрым рэхам адгукнецца па Аўстраліі ды па іншых краёх.



**Беларуская школа ў Мэльбурне (Аўстралія)**

Беларусаў у Аўстраліі каля тысячы. Таму й дзяцей ды моладзі даволі. У самым Мэльбурне больш за сотню. Ня дзіва, што ці мала гутарылася на тэму школы, тым больш, што іншыя нацыянальнасьці яе ўжо мелі, і што апошнім часам улады не рабілі асаблівых перашкодаў. Але расьцярушанасьць ды палітычныя непаразуменьні паміж беларускімі арганізацыямі часта перашкаджалі наладзіць гэтую справу. Праўда, Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі яшчэ ў 1952 і 1953 гадох ладзіла лекцыі зь беларусаведы й веды агульнай, але для дарослых, а таксама ў 1953—54 гадох лекцыі зь беларусаведы для групы скаўтаў. Аднак такімі лекцыямі не пашчасьціла ахапіць усяе моладзі ў школьным веку.

На паседжаньні ўправы Згуртаваньня ў жніўні 1955 г. была прынята пастанова старацца закласьці школу супольна зь іншымі беларускімі арганізацыямі. Перашкодаў у гэтым не паўстала. Аб'еднаньне Беларусаў у Вікторыі й Жаночае Згуртаваньне ў Мэльбурне ахвотна падтрымалі прапазыку. 28. VIII. 55 у Ст. Альбанс быў скліканы першы сход бацькоў, настаўнікаў і зацікаўленых асобаў. На сходзе быў створаны арганізацыйны камітэт, якому было даручана распрацаваць патрэбныя дадзеныя, падрыхтаваць ды склікаць другі агульны сход.

Сход адбыўся 9. X. 55 у Мэльбурне. Пасьля даўгіх дыскусіяў, ён прыняў пастанову арганізаваць тым часам беларускую школу ў Сант Альбанс, дзе ёсьць найбольшая колькасьць дзяцей у школьным веку, і ў далейшым імкнуцца арганізаваць школы ў іншых дзялянках Мэльбурну. Дзеля рэалізацыі пастановы і далейшай апекі над школай (і школамі) выбраны школьны камітэт. На гэтым-жа сходзе прысутныя склалі на лісту ахвяраў 7 з паловай фунтаў на першыя патрэбы школы і даручылі камітэту ў далейшым праводзіць зборы ахвяраў сярод грамадзтва.

Школьны камітэт пачаў працу. Ужо на другім паседжаньні сяброў камітэту 23. X. 55 былі абмеркаваныя справы кіраўніцтва школы, ейнага месца, патрэбных рэчаў і г. д.

13. XI. 55 у Ст. Альбанс, у памешканьні сп-ства Раманоўскіх, якія аддалі для школы пакой у сваёй хаце, сабралася паважная беларуская грамадка старэйшых і дзяцей. Адчуваўся сьвяточны настрой. Старшыня Школьнага Камітэту сп. Нікан адчыніў сход. У сваёй уступнай прамове ён гаварыў аб значэньні школы, а сп. Жураўлевіч, які згадзіўся быць за кіраўніка, інфармаваў аб справах пэдагагічных. У далейшым палагоджана наступнае:

— заняткі ў школе будуць адбывацца раз у тыдзень (у нядзелю) па 2—3 гадзіны ;

— адзін з нашых сьвятароў будзе вучыць рэлігіі;

— на Каляды наладзіць ялінку для дзяцей;

— навука ў школе (сп. Жураўлевіч), як і памешканьне (сп. Раманоўскі) — дармовыя;

— на патрэбы школы прысутныя склалі на другую лісту 10 фунтаў ахвяраў.

На заканчэньне старшыня камітэту падзякаваў усім ахвярадаўцам, пажадаў кіраўніку школы й дзеткам памыснай працы й абвесьціў адчыненьне школы. Пасьля кароткага перапынку дзеці з настаўнікам пайшлі ў клясу ўзаемна пазнаёміцца, а старэйшыя правялі гадзінку ў гутарцы аб школе.

У наступную нядзелю 20. XI. нармальныя заняткі ў школе пачаліся ўрачыстым малебнам, які адслужыў а. Барыс Каменскі. Урачыстасьць закончана фатаграфіяй дзяцей з настаўнікам, а пасьля — і з усімі прысутнымі. Супольнымі сіламі можна зрабіць шмат карысных рэчаў. Ужо першая лекцыя ў школе пакінула незабыўнае ўражаньне. Дзеці самі, без напаміну, пачалі цікавіцца й пытацца ў бацькоў аб далейшай навуцы — іх, як ніколі, пацягнула да свайго блізкага й роднага.

**К. Н.**

---

— Вось і ня ведаеце! Бог стварыў толькі першага чалавека, што Адамам зваўся. А ўсе людзі, што распладзіліся ад Адама па ўсей зямлі, атрымалі сваё імя ад тых мясцовасьцяў, дзе яны засяліліся, або самі надалі назоў той мясцовасьці, якою завалодалі. І вось, кажны народ асеў на сваёй зямліцы, сваёй гаспадарцы: Расейцы — у Расеі, Немцы — у Нямеччыне, Французы — у Францыі, Паляке — у Польшчы, Беларусы — у Беларусі. Да Беларусаў і мы належым, але, як нашая зямелька вялікая, дык каб адрозьніць, хто адкуль паходзіць, дык маем яшчэ асобныя мясцовыя назовы. Толькі вось мазурэ жывуць на падсуседзях у Палякоў, — ні то Паляке, ні то не Паляке: мова шапялявая, вопратка дзіравая, гавораць, як кашы-мазухі ў губу набраўшы. Згэтуль — і мазурэ. Калечаны народ! А калі хочаце ведаць, як і калі акалечыліся, дык раскажам вам.

— Скажэце, людцэ добрыя! — просяць мазурэ.

— Добра, — кажа Тарас, — дык слухайце-ж ды ня гнявайцеся, калі што не спадабаецца. Жыў сабе за Берасьцем адзін Паляк ды такі лядашчы і зухвалы, што нікому і дарогі не саступаў. Нат усе Паляке ад яго адкінуліся, кажучы, што гэта нейкі ўжо падпаляк. Вось, аднаго разу заступіў гэты Паляк дарогу чорту і давай зь ім біцца, а чорт калі смальне яму ў зубы, дык яны ў Паляка і высыпаліся. Адгэтуль пачаў ён шапятаць, і ад яго пайшоў цэлы такі род, бо дзеці перанялі ягоную шапятлівую мову. Дык вось, знача, мазурэ — тыя-ж Паляке, толькі што шапятлівыя. Але Паляке, памятаючы іхнага паганага прашчура, і цяпер на мазуроў ласкі ня маюць, па сьвеце іх разганяюць, па чужых краёх расьпіхаюць і ўсё небясьпечныя кутке мазурамі затыкаюць. Што-ж, няпраўда мо?

— Можа і праўда, — згадзіліся мазурэ, — калі людзі аб гэтым баюць.

Пагутарылі яшчэ аб тым, аб сім, як гэта заўсёды бывае паміж падарожнымі ды яшчэ за чаркаю гарэлкі. Урэшце усе параззуваліся і палягалі спаць.

### XVIII. ЯК МАЗУРЭ СВАЕ ХАДАКІ ПАЕЛІ

Чазаўтрае, пакуль мазурэ яшчэ спалі, прачнуўся Тарас і будзіць Панаса.

— Панас, Панас! Хутчэй уставай! Будзем сьнеданьне гатаваць.

Панас прахапіўся і думае: «Зноў, пэўна, нейкую штуку надумаў мой кум»!

— Ну, Панас! Зьбірай хутчэй усе мазуроўскія хадаке і рэж зь іх скваркі, пакуль я агонь распалю.

Распаліў Тарас на прыпеку дровы, паставіў трыножак, нарэзаў на скавараду сала, укінуў туды скваркі з мазуроўскіх хадакоў — пячэ.

Па карчме пайшоў прыемны пах, быццам добрая гаспадыня верашчаку варыць. Сала прабралася да Жыдоў у камору і так паказытала ў носе старазаконнага Янкеля, што той праз сон аж чхнуў.

А падхартаным мазуром дык пэўна аладкі сьніліся.

Нарэшце, пачалі яны прачынацца і, уцягваючы ў сябе прыемнае паветра, пытаюцца:

— Чым гэта так смачна пахне?

Панас із Тарасам паставілі на стол кварту гарэлкі, смажаніну з хадакоў і клічуць на сьнеданьне ўсіх мазуроў.

— Ідзеце, — кажуць, — на разьвітаньне пачастуем вас варшаўскімі флякамі.

Уселіся мазурэ за стол. Выпілі па чарцы. Хрумстаюць свае хадаке, аж за вушамі трашчыць! Хваляць Панаса і Тараса, што ўмеюць так добра флякі гатаваць.

А Панас і Тарас толькі ўсьмяхаюцца. Ядуць сабе сала, а да скварак з хадакоў не дакранаюцца.

— Чаму-ж вы людцэ, самі не берацё флякаў? — пытаюцца мазурэ.

— Мы ўжо даўно пасьнедалі і вось толькі з умысьля вас на разьвітаньне пачаставаць захацелі.

— Дзякуем вам, людцэ добрыя! За ўсё нашае жыцьцё ня елі такіх смачных рэчаў!

Пасьнедалі мазурэ і, аблізваючыся, ад стала разышліся. Рыхтуюцца абувацца. Тыц! — мыц! — пад лаўкі, пад стол, — а барсуноў і няма! Што за ліха? Сабакі не брахалі, а хадаке пакралі! Галовы скруцілі іх шукаючы! Прычапіліся да Жыда.

— Давай, — крычаць, — нашыя хадаке, ато пэйсы павылупім!

А ад барсуноў толькі аборкі па карчме валяюцца. Мазурэ ўжо згаварваюцца на гэтых аборках Жыда вешаць, калі не аддасьць барсуноў, або не заплаціць за іх.

Тут Панас і Тарас прызналіся дзе барсуны дзеліся.

Сумеліся мазурэ. Дзівяцца здольнасьці Панаса і Тараса! За хадаке ня злуюць, бо навука грошы каштуе. Але чаго-ж і гневацца, калі самі спажылі ды яшчэ за чужою чаркаю гарэлкі? За тое пераканаліся, што за моц мае сала, якога яны ўперад баяліся ўжываць. Абяцаліся нат, заехаўшы дамоў, пасмажыць усе заваляшчыя хадаке, якія дзе толькі знойдуцца.

Вось, з таго, пэўна, часу мазурэ і прывыклі да сала і цяпер нат без хадакоў яго ўжываюць!

Як із добрымі прыяцелямі разьвіталіся мазурэ з Панасам і Тарасам.

Селі яны і паехалі.

### XIX. ПАНАС І ТАРАС РАСКАЗВАЮЦЬ ДОМА ІНШЫМ, ШТО БАЧЫЛІ Ў ДАРОЗЕ

Едуць сабе, едуць міжсобку гутараць. Да роспуку рагочуць, як хадаке прыгадаюць. У вясёлым настроі незаўважылі, як апынуліся ў Берасьці.

— Ну, дзякаваць Богу, сваёй старонкай запахла!

Тут яны зноў сустрэліся з Арцёмам. Расказалі яму, што чулі і бачылі на белым сьвеце. Выпілі разам кварту гарэлкі, узялі ад Арцёма ліст да яго бацькоў і паехалі далей.

На Купала яны былі ўжо дома. Якраз да касьбы ўправіліся!

Радыя Панас і Тарас, што на свае вочы пабачылі, да чаго мудрыя людзі на сьвеце жывуць! Ня раз панадывалі ад сьмеху жыватэ суседзі Панасавы і Тарасавы, слухаючы іхныя апавяданьні. Ды цяпер яшчэ, лежачы на печы (бо ўжо зусім старыя), апавядаюць яны сваім унукам, як мазурэ на сьвеце жывуць і да чаго яны здольны народ.

І мне калісьці, як я быў музыкам на вясельлі Тарасавага сына, давялося да сьлёз нарагатацца слухаючы іх ныя апавяданьні. Цікаўныя і пацешныя рэчы яны расказвалі! Але ўсіх цяпер я не магу прыпамятаць. Дык вось каб, і гэтыя ўрэшце ня вылецелі з галавы, я узяў ды запісаў.

# Зь беларускага жыцьця

## Міжнародны канцэрт у Дэтройце

Дэтройцкі «Інтэрнацыянальны Інстытут» — добра ведамая ўстанова,асабліва новым эмігрантам, што прыяжджаюць у штат Мічыган. Тут можна атрымаць дапамогу дзеля ўладжаньня новага жыцьця. Ня менш важнай і карыснай зьяўляецца дапамога гэтае інстытуцыі ў наладжваньні арганізацыйнага жыцьця паасобных нацыянальных групаў, з чаго ў вялікай меры карыстаем і мы, Беларусы, знаходзячы там месца на зборкі й імпрэзы.

Сёлета Інстытут ладзіў 25-ы гадавы г. зв. «Old World Market & Folk Festival» зь вельмі разнаякаю праграмаю, расьцягнутай аж на чатыры дні. Удзел Беларусаў у гэтай імпрэзе заключаўся ў васнаўным у мастацкай самадзейнасьці на народным фэстывалі. Наш прадстаўнік і сябра Рады Інстытуту сп. Мікола С. удала падабраў час на наш выступ у сыботу (19 лістапада) а 9-й гадзіне ўвечары, калі людзі найбольш маюць часу й шукаюць разрывак. Таму ў гэтым часе Інстытут быў найбольш наведваны, а заля, дзе адбываўся канцэрт, была дасло́ўна перапоўненая.

Беларуская частка была ў другім пункце праграмы гэтага вечару і зрабіла, на нашую думку, найлепшае ўражаньне, чаго довадам былі бурныя воплескі. «Мастэр оф сэрэмоны», ведамая канфэрансьерка з тэлэвізіі, прыгожа зарэпрэзэнтавала нашых маладых артыстак, якія сваім цудоўным выглядам выклікалі агульнае захапленьне.

Першаю выступіла салістка Іра Калядa, што выканала дзьве народныя песьні: «Ой, зарадзілі» ды «Што за месяц». Публіка задаволена сустрэла ейны малады й прыгожы голас. Тады да яе далучылася другая прыгажуньня, Маня Лук'янчык, і паплыла яшчэ адна беларуская народная песьня «Туман». Пасьля гэтага цудоўнага дуэту адразу ўтварыўся квартэт з дапамогаю Ніны Семянчук ды Іры Трацяк, які выканаў песьню «Вол бушуе». Укаранаваньнем нашае праграмы была «Лявоніха» ў выкананьні дзьвёх таленавітых і сымпатычных маладых танцорак — Ніны Семянчук і Іры Трацяк (у ролі хлапца).

Ясна, што для беларускіх гледачоў у залі нашая праграма была наймілейшай. Аднак аб'ектыўна трэба прызнаць, што, паза выступам вугорскае танцавальнае групы з «Чардашом», усе іншыя выканаўцы выглядалі больш на прафэсыяналаў, у той час, як нашыя маладыя дзяўчаткі з Кліўлэнду ў прыгожых нацыянальных строях рэпрэзэнтаваліся як добрыя аматаркі-артысткі народнага мастацтва.

На заканчэньне хацелася-б падчыркнуць яшчэ той факт, што гэта ня зусім лёгка й проста прыехаць за 200 міль у Дэтройт, каб дапамагчы туташнім Беларусам адпаведна зарэпрэзэнтавацца на міжнароднай імпрэзе народнага мастацтва ды зараз-жа пасьля выступу ўночы варочацца ў Кліўлэнд. Сьветчыць гэта толькі аб высокім зразуменьні грамадзкіх абавязкаў і самаахвярнасьці ў пашырэньні беларускае справы. За гэта ім належыцца ня толькі з боку дэтройцкіх Беларусаў, але й ад усяго нашага грамадзтва шчырая падзяка й вялікае прызнаньне.

**Язэп Гарадачанскі**

—о—

## Беларускі Аб'еднаны Камітэт у Чыкаго

У сувязі з падрыхтоўкай да 35-х угодкаў Слуцкага Паўстаньня, у канцы кастрычніка 1955 г. стварыўся ў Чыкаго Аб'еднаны Камітэт Беларускіх Арганізацыяў, у які ўвайшлі: тры прадстаўнікі ад Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкаго ды тры прадстаўнікі ад Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс. Заданьнем Камітэту ёсьць каардынацыя і супольнае праводжаньне беларускай нацыянальнай дзейнасьці ў Чыкаго на агульна-нацыянальных і незалежніцкіх прынцыпах. Камітэт меў цэлы шэраг супольных нарадаў, якія праходзілі ў духу ўзаемнага даверу ды супрацоўніцтва, наладзіў супольную Акадэмію ў памяць Слуцкага Паўстаньня, а ў сучасны мамэнт заняты падрыхтоўкай каляднай ялінкі для беларускіх дзяцей.

На апошнім паседжаньні Камітэту пастаноўлена прыняць у склад Камітэту прадстаўніка ад Беларускага Каталіцкага Прыходу Усходняга Абраду, які нядаўна заснаваўся.

## Беларускі Каталіцкі Прыход Усходняга Абраду

Ад 20 лістапада 1955 году кажную нядзелю ад 10 гадзіны адбываюцца ў сьвятыні пры 1515 Н. Оклей Блд. у Чыкаго Божыя службы у ўсходнім абрадзе для Беларусаў, адпраўляныя а. Тарасэвічам, ведамым і заслужаным беларускім дзеячом. Пры сьвятыні ўжо зарганізованы прыход, да якога належыць каля 100 вернікаў. Хор пад кіраўніцтвам сп. Юрчэнкі ўжо захапляе царкоўнымі сьпевамі навет чужынцаў, якія цікавяцца беларускім прыходам і рэлігійным жыцьцём Беларусаў.

## Ў Ангельшчыне...

### ПРЫЛЁТ

Дагэтуль наша беларуская хроніка запісвала вылучна адлёт нашых сяброў зь Вялікабрытаніі. Дзе іх няма? Канада, Аўстралія, Бэльгія, Італія... Найменш у трох розных краінах сьвету жывуць цяпер старшыні нашага ЗБВБ. А каб мы сталі лічыць сакратароў ды звычайных сяброў і тыя краіны, дзе яны сяньня знаходзяцца, дык дасло́ўна мусілі-б перабраць усю геаграфію сьвету. І вось таму мы зь вялікай радасьцяй вітаем прыезд на стала да нас а. Кастуся Маскаліка (прыехаў 8 лістапада) ды сп. сп. М. Арцюха і М. Ягаўдзіка. Усе трох маюць за сабой закончаную ўнівэрсытэцкую асьвету, усе патрыёты, усе бяруцца за салідную грамадзкую й культурную працу. Маем моцную надзею, што распачатыя спробы вывесьці на ангельскія сцэны купалаўскую «Паўлінку» закончацца памысна.

Тымчасам — гэта нашы пажаданьні, а аб падзяках будзем пісаць пазьней.

✳

### ЗБОРКА СЯБРОЎ КЛЮБУ ЦЭНТРАЛЬНА-ЎСХОДНЯ-ЭЎРАПЭЙСКІХ НАРОДАЎ

26 лістапада 55 г. адбылося сяброўскае спатканьне ў Доме Марыянаў (у а. Сіповіча), якое арганізаваў Клюб ЦУЭН. Сабралася паважная грамада прадстаўнікоў ад Чэхаў. Палякаў, Беларусаў, Мадзяраў, Харватаў і Ангельцаў. Айцец Сіповіч зрабіў даклад аб сучаснай Італіі, якую ён нядаўна наведаў.

✳

### ДАКЛАД ІНЖ. СЬЦІБОРА-РЫЛЬСКАГА

У нядзелю 4 сьнежня 55 г. замежны камітэт польскай партыі «Праца», старшынём якое зьяўляецца сп. С. Сопіцкі, ладзіў зборку з дакладам інж. А. Сьцібора-Рыльскага на тэму: «Палітычныя плыні сярод уцекачоў Украінцаў і Беларусаў на Захадзе».

Сам даклад сп. Сьцібора-Рыльскага быў на высокім узроўні. Аднак ня ўсе галіны жыцьця Беларусаў і Украінцаў змог ён ахапіць. Асабліва замала быў прэлегент паінфармаваны аб беларускай прэсе, нашых арганізацыях і ўстановах на чужыне.

Пасьля дакладу завязалася вельмі ажыўленая дыскусія. Надта моцна зарэагавалі Палякі на словы аднаго з прысутных Беларусаў, які сьцьвердзіў факт перасьледу беларускасьці ў Польшчы перад апошняй вайной. Прыемна тут адцеміць, што бальшыня прысутных, сярод якіх найбольш было Палякаў, выразна пацьвердзіла несправядлівыя ўчынкі Палякаў у дачыненьні да Беларусаў. Сп. Велькопольскі, рэдактар газэты «Глос Конфэдэрац'і», кінуў прысутным пытаньне: «Колькі-ж у перадваеннай Польшчы было беларускіх гімназіяў, школаў? Ці-ж нам ня сорамна, калі ў маленькай Латвіі, дзе было толькі 40.000 Беларусаў, былі тры беларускія гімназіі? ... А польскае асадніцтва на «крэсах»? ...»

Нам застаецца толькі пажадаць, каб больш было гэткіх галасоў з боку Палякаў, якія-б мелі адвагу прызнацца да памылак і шматлікіх несправядлівасьцяў, спрычыненых Беларусам. Заўважым пры нагодзе, што сп. Велькопольскі, як і сп. Сьцібор-Рыльскі, зьяўляюцца яшчэ толькі выняткамі сярод мора вузка думаючых эміграцыйных Палякаў, што ўсё яшчэ мрояць аб рыскіх межах, аб даўна няіснуючай «моцарстовасьці» і зажмурыўшы вочы снуюць баечкі аб «крэсах» зь Вільнам і Львовам.

✳

### ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў ЧЭСЬЦЬ ВЫСОКАГА КАМІСАРА ДЛЯ ЎЦЕКАЧОЎ

Асацыяцыя Задзіночаных Нацыяў і Брытанскі Камітэт Дапамогі Ўцекачом зладзілі прыняцьце ў чэсьць сп. д-ра G. J. van Heuven Goedhart, Высокага Камісара для Ўцекачоў. Адбылося яно 6 сьнежня 1955 г. ў будынку Ангельскай Моўнай Вуніі ў Лёндане. Нагодай прыняцьця было прызнаньне сп-ру Goedhart-у ўзнагароды Нобля. На прыняцьці быў цэлы шэраг выдатных асобаў, як: дама May Curwen, старшыня Брытанскага Камітэту Дапамогі Ўцекачом, сэр Norman Angel, які атрымаў узнагароду Нобля ў 1933 г., лёрд Boyd Orr. узнагароджаны ноблеўскай прэміяй у 1949 г. ды сп. Macmillan. міністар замежных спраў Вялікабрытаніі.

На залі былі прадстаўнікі ад розных нацыянальнасьцяў. Беларусаў рэпрэзэнтавалі сп. Павал Асіповіч, старшыня ЗБВБ, і а. Ч. Сіповіч. Беларускія прадстаўнікі мелі нагоду ня толькі злажыць пажаданьні сп-ру Goedhart-у, але й пазнаёміцца зь ягоным заступнікам на Вялікабрытанію сп. Вырубавам ды з шмат якімі іншымі гасьцямі.

**А . Дзедзінка**

## Беларусы на міжнацыянальным канцэрце ў Торонто

Вечарам у нядзелю 11 сьнежня 55 г. Ліга Міжнацыянальнага Супрацоўніцтва, у якую ўваходзяць нацыянальныя арганізацыі ў Торонто, ладзіла канцэрт песьняў і танцаў у вялікім памешканьні пры касьцёле сьв. Кірылы. Выступалі на канцэрце Беларусы, Казакі, Мадзяры, Македонцы, Румуны, Славакі й Эстонцы.

Вялікае захапленьне ў гледачоў выклікаў беларускі танец «Лявоніха», выкананы танцавальнай групай Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня. Беззаганнае выкананьне, як і прыгожая нацыянальная вопратка, былі ўзнагароджаны доўга нямоўкнучымі воплескамі. На канцэрце было прысутных звыш 700 чалавек. Абедзьве галоўныя торонцкія газэты «Тэлеграм» і «Дэйлі Стар» зьмясьцілі на сваіх першых бачынах здымкі ўдзельнікаў беларускай групы і вельмі прыхільныя рэпартажы. Гэтае выступленьне шмат спрычынілася да папулярызацыі беларускага ймя ды беларускага мастацтва сярод чужынцаў.

За ўдзел у ўспомненым канцэрце Беларускаму Нацыянальнаму Аб'еднаньню належыцца вялікая падзяка. Асаблівая-ж удзячнасьць і прызнаньне за арганізацыю беларускае танцавальнае групы й падрыхтоўку «Лявоніхі» належыцца сп-ні Валентыне Пашкевіч. Жадаем ёй далейшых удачаў у гэтай добрай і карыснай працы.

Трэба, на вялікі жаль, шкадаваць, што Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне замала прысьвячае ўвагі такой карыснай працы, як, прыкладам, арганізацыя мастацкіх выступаў Беларусаў у сябе ды на міжнацыянальных канцэртах, а асноўную энэргію траціла дагэтуль і, выглядае, будзе траціць далей на змаганьне із Згуртаваньнем Беларусаў у Канадзе і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой. Бальшыня сяброў Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня належала калісьці да Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Але ў 1953 г., пасьля няўдалае спробы некаторых асобаў недэмакратычнымі мэтадамі апанаваць Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе, яны ўтварылі Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне. Галоўнай падпорай гэтае арганізацыі зьяўляецца г. зв. беларуская царква, якая належыць да грэцкае юрысдыкцыі, і дзе настаяцелем зьяўляецца а. Мігай. Найбольш увагі ўспомненая царква прысьвячае на змаганьне з БАПЦ і зь мясцовай парахвіяй імя сьв. Кірылы Тураўскага. **М. К-р**

## Сэанс беларускіх песьняў у „Оймавія“ (Бэльгія)

«Оймавія» — гэта скарот ад Ойпэн, Мальмэды, Сант Віт (часткі Бэльгіі, дзе насельніцтва гутарыць панямецку), якім абазначаецца студэнцкая карпарацыя пры Лювэнскім унівэрсытэце.

Сяброўства паміж Беларускім Студэнцкім Згуртаваньнем а «Оймавіяй» існуе ад часу паяўленьня беларускіх студэнтаў на Лювэнскім Унівэрсытэце. Выяўляецца яно ў сталым кантакце ды ўзаемных адведзінах пры розных нагодах.

7 сьнежаня 55 г., на просьбу «Оймавіі», БСЗ дало сэанс беларускіх плітак у залі гатэлю «Мажэстык», дзе адбываюцца ўсе імпрэзы і традыцыйныя штомесячныя «кнайпы», ладжаныя «Оймавіяй». Сябра БСЗ С. М. даў кароткі нарыс беларускае народнае песьні, адзначаючы пры гэтым ейную ролю ў захаваньні беларускае культуры й традыцыі. Таксама ў тракце сэансу сябра С. М. даваў паясьненьні й пераклады некаторых паасобных песьняў. Сэанс падзяляўся на дзьве часткі: рэлігійныя песьні Равенскага і народныя песьні (апрацоўка Равенскага й найграныя ў БССР). Як адны, так і другія карысталіся вялікім посьпехам і, калі сябра С. М. сказаў, што граецца апошняя плітка, у залі пачулася агульнае «а-а-а... шкада!», пасьля чаго прагучэла даўгое й энэргічнае стуканьне ручкамі аб сталы (студэнцкія воплескі).

Вечар працягваўся далей у сяброўскай атмасфэры. Прыемна было бачыць раськіданых між сяброў «Оймавіі» студэнтаў нашага Згуртаваньня, якія расказвалі зацікаўленым аб Беларусі, аб нашых песьнях, звычаях і г. д. Час-ад-часу гутаркі перарываліся старымі песьнямі нямецкіх студэнтаў. Ужо было даволі позна, калі мы з сумам прынялі да ведама паведамленьне старшыні «Оймавія», што, на ягоны вялікі жаль, заля павінна быць пакінута.

Канчаючы гэтыя радкі, нельга абыйсьціся, каб ня ўспомніць аб сьв. пам. праф. Равенскім — аб чалавеку, які прынёс нашай студэнцкай групе такія вялізарныя ўслугі, які нястомна да апошняе часіны свайго жыцьця працаваў для Беларусі, што была яму Альфай і Омэгай. Сяньня, калі нашая студэнцкая група зьменшала, калі часамі нам абсалютна немагчыма даць канцэрт, — дзякуючы вялікай працы сьв. пам. Міколы Равенскага, мы ўсё-ж можам прадаўжаць нашу культурна-нацыянальную рэпрэзэнтацыю.

**Ж.**

### УВАГА! БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ!

Просіцца ўсіх Беларусаў, якім да гэтага часу высылаліся пробныя нумары «Бацькаўшчыны», прысылаць грошы на падпіску газэты. Просіцца адначасна неадкладна ўрэгуляваць усе задоўжанасьці за газэту; у іншым выпадку, высылка газэты будзе спынена.

**Прадстаўнік «Бацькаўшчыны»**
Miss L. Wierny
57 Riverdale Ave
Toronto, Ont.

### ПАДЗЯКА

**Рэдакцыя й Адміністрацыя «Бацькаўшчыны» шчыра дзякуюць усім за прысланыя калядныя й навагоднія вітаньні.**

## Няма роду бяз выраду

«Моладзь — наша зьмена, моладзь — наша сіла, уся надзея на моладзь і г. д.» — часта можна пачуць ад нашага старэйшага грамадзтва. Аднак прыгледзеўшыся бліжэй, спаткаемся з фактамі, якія гавораць зусім адваротнае. Няхай хтось не падумае, што гэтым я хачу прадставіць у цёмным сьвятле ўсю нашую моладзь. Не, бязумоўна, ёсьць сярод яе шмат самаахвярных адзінак, якія, не шкадуючы сілаў і ахвяраў, працуюць для дабра грамадзтва ды для хутчэйшага вызваленьня Бацькаўшчыны. Але йзноў не бракуе й такіх, што робяць зусім адваротнае.

Пара тыдняў таму, ўсе беларускія выгнанцы, раськіданыя па ўсіх краінах вольнага сьвету, сьвяткавалі сьвята Герояў — угодкі Слуцкага Паўстаньня. Успаміналі ў сьвятынях, на акадэміях, а дзе на гэта ня было магчымасьці, хоць у сваіх сэрцах — усіх тых, што памерлі, каб жыла Беларусь. Але гэта чамусьці не забавязвала «Беларускае Студэнцкае Аб'еднаньне» у Саўт Рывэр, якое напярэдадні гэтага сумнага для нас усіх сьвяткаваньня, г. зн. 26 лістапада, наладзіла свой «гадавы баль». І вось, калі не адна матуля выплаквала сьлёзы па загінутым сыне, калі плылі малітвы да пасаду Ўсемагутнага, каб Ён прыняў тых, «што жыцьцё сваё палажылі за блізкіх сваіх», беларускія студэнты адчосвалі «каробушкі» і іншыя румбы. Агідна і сумна...

Не канец на гэтым. Іншая частка моладзі ў гэты-ж вечар пайшла на расейскі баль «народов России» даказваць Расейцам сваё вернападданства, а Амэрыканцам, што ніякага нацыянальнага прыгнёту ані нацыянальнай апрычонасьці няма ані на скаванай маскоўска-бальшавіцкімі ланцугамі Бацькаўшчыне, ані тутака, у вольным сьвеце. Асабліва папісалася «исполнительница белорусских народных песень», якая «на белорусском наречии» выканала «Васількі». Маскоўскаму імпэрыялізму аказана ўслуга. Цяпер яны могуць сьмела гаварыць: «Выбачце, дык які-ж нацыянальны прыгнёт існуе ў СССР, калі прадстаўнікі гэтых-жа нацыянальнасьцяў самахоць ідуць да нас і даказваюць перад усім сьветам, што няма ніякіх беларусаў, украінцаў і г. д., а ёсьць толькі «росьсіяне» із сваімі «нарэчиямі». Услуга ўслугай. А вось з аплатай за яе выйшла ня зусім гладка. Толькі празь некалькі дзён была зьмешчана ў «Новом Русском Слове» справаздача аб «колоссальных» посьпехах балю. «Исполнительницу» (дарэчы сказаць, зь перакручаным прозьвішчам) не памінулі «молчанием». І толькі на дзесяты дзень, гэта значыць у нумары з 6 сьняжня, была зьмешчана «горячая благодарность» усім тым, хто, не паслухаўшы «сепаратистов, расчленителей и соглашателей» дэманстраваў «единство российской эмиграции».Ведама-ж, не памінулі і «исполнительницу», яшчэ раз перакруціўшы прозьвішча.

Як бачым, у дачыненьнях да ўслугі заплата ня вельмі вартасная. За маскоўскую «благодарность» ня купіш нічога апрача пагарды суродзічаў.

**Старэйшы**

### ДА ЎВАГІ АХВЯРАДАЎЦАЎ НА ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІГІ

**Адміністрацыйныя справы нашага выдавецтва да палавіны 1955 году, дзеля нястачы на месцы адпаведных кваліфікаваных працаўнікоў, мы змушаны былі заладжваць праз Бэльгію (Лювэн) і Нямеччыну (Мюнхэн). Гэты ненармальны стан адбіваўся адмоўна на працы адміністрацыі ды на сваечасовасьці заладжваньня патрэбаў нашых падпішчыкаў і ахвярадаўцаў. Вынікі гэткае адміністрацыйнае раздвоенасьці адчуваюцца, нажаль, яшчэ й да сяньня. Вось-жа, каб наладзіць нашыя дачыненьні з ахвярадаўцамі на Выдавецкі Фонд Беларускае Кнігі, якія, злажыўшы ахвяру, яшчэ не атрымалі належнае раўнавартасьці ў кніжках, ветліва просім іх напісаць нам аб гэтым. Адначасна яшчэ раз зьвяртаемся з просьбай да ўсіх нашых прадстаўнікоў зьвярнуць на гэты мамэнт належную ўвагу.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### УВАГА!

### ДА НАШЫХ ДАЎЖНІКОЎ

**Гэтым ветліва просіцца ўсіх нашых даўжнікоў неадкладна ўрэгуляваць з выдавецтвам «Бацькаўшчыны» (праз нашых прадстаўнікоў або беспасрэдна) задоўжанасьць за газэту; у іншым выпадку мы будзем змушаны спыніць далейшае высыланьне газэты.**

**Адміністрацыя «Бацькаўшчыны»**

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.
Выдавец: Уладзімер Бортнік
РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.